ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# КООПЭРАЦЫЯ БССР

ЧАСОПІСЬ БЕЛКООПСАЮЗУ І БЕЛСАМПРАМСАЮЗУ
ВЫХОДЗІЦЬ АДЗІН РАЗ У 20 ДЗЁН



1 студзеня—10 лютага

№ 1-2



МЕНСК 1931

# ЗЬМЕСТ



Галоўлітбел № 330. Заказ № 797—1000 экз. „Палесдрук“, Гомель.

# Работу спажывецкай коопэрацыі—на службу соцыялістычнай рэконструкцыі

Пэрыод соцыялістычнай рэконструкцыі ўсяе народнай гаспадаркі ўскладае на спажывецкую коопэрацыю адказьнейшыя, вялікай палітычнай важнасьці задачы. Рэконструкцыйны пэрыод патрабуе ад спажывецкай коопэрацыі перабудаваць усю сваю дзейнасьць і практычную работу так, каб яна была падпарадкавана задачам соцыялістычнага будаўніцтва і служыла справе яшчэ большага ўмацаваньня фронту пераможнага соцыялістычнага наступу ў горадзе і на вёсцы.

Студзеньскі пленум ЦК КП(б)Б, які спэцыяльна абмяркоўваў пытаньне аб рабоце спажывецкай коопэрацыі, сказаў, што работа па перабудове дзейнасьці спажывецкай коопэрацыі ў адпаведнасьці з задачамі рэконструкцыйнага пэрыоду адбывалася недапушчальна марудна, што „у працы раду організацый і асобных зьвеньняў апарату Белкоопсаюзу наглядаюцца наяўнасьць нэпманскага духу, а таксама опортунізм на практыцы, стаўка на самацёк, бюрократызм, адарванасьць сыстэмы ад мас, засьмечанасьць апарату варожымі і шкодніцкімі элемэнтамі, недысцыплінаванасьць сыстэмы“. (З пастановы пленуму ЦК КП(б)Б).

У рабоце раду кіруючых коопэрацыйных зьвеньняў груба скажалася правільная генэральная лінія партыі, праяўлена праваопортуністычная практыка. Партыя, пры актыўнай дапамозе пролетарскай грамадзкасьці, выкрыла праваопортуністычную практыку ў рабоце праяўленьняў Менскага, Гомельскага і цяпер Барысаўскага цэрабкопаў. КП(б)Б, пад кіраўніцтвам свайго Цэнтральнага комітэту, нанесла жорсткі ўдар па опортуністых, якія супраціўляліся перабудове работы коопэрацыі, якія былі няздольны ажыцьцяўляць генэральную лінію партыі. КП(б)Б, у асобе Пленуму ЦК, дала зусім выразныя дырэктывы, накіраваныя на хутчэйшую перабудову работы спажывецкай коопэрацыі, паставіла рад палітычных задач перад усёй коопэрацыйнай сеткай.

Прызнаўшы работу спажывецкай коопэрацыі БССР нездавальняючай, Пленум ЦК КП(б)Б прызнаў, што перабудова дзейнасьці і работы коопэрацыі павінна адбывацца пад лёзунгам бязумоўнага забесьпячэньня ў першую чаргу важнейшых вучасткаў соцыялістычнага будаўніцтва і належнай пастаноўкі клясавага разьмеркаваньня тавараў. Выходзячы з поўнага ажыцьцяўленьня гэтай задачы, і павінна адбывацца перабудова ўсяе коопэрацыйнай сыстэмы, удасканаленьне яе работы з тым, каб шчыльна падыйсьці да справы поўнага абслугоўваньня патрэб прамысловасьці і соцыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі. Перабудова работы коопэрацыі, накіраваная на палепшаньне рабочага забесьпячэньня, удасканаленьне форм клясавага разьмеркаваньня павінна стымуляваць укараненьне новых соцыялістычных мэтадаў працы: разгортваньня яшчэ больш шырока соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва.

Клясавае разьмеркаваньне прамысловых тавараў і продуктаў спажываньня — адно з галоўных пытаньняў у рабоце коопэрацыі па забесьпячэньню. Яно вымагае ад

коопэрацыйнай сыстэмы безадкладнага палепшаньня работы зачыненых разьмеркавацеляў, пашырэньня іх сеткі ў прамысловых раёнах. Пленум ЦК КП(б)Б абавязаў „спажывецкую коопэрацыю, партыйныя, савецкія і профэсіянальныя арганізацыі паставіць у цэнтры ўвагі свае работы безадкладнае палепшаньне пастаноўкі работы зачыненых разьмеркавацеляў і безадкладнае зьнішчэньне наяўных буйных недахопаў, якія былі допушчаны пры самой арганізацыі разьмеркавацеляў“.

Гэтага можна дасягнуць толькі сапраўды баявой работай коопэрацыі, умацаваньнем разьмеркавацеляў клясава-трывалымі, працаздольнымі работнікамі, можна дасягнуць пры тэй умове, калі партыйныя, профсаюзныя і савецкія арганізацыі ўжывуць практычныя меры для ўмацненьня кіраўніцтва і дапамогі коопэрацыі.

Разам з правядзеньнем работы па палепшаньню і пашырэньню сеткі зачыненых разьмеркавацеляў коопэрацыйныя арганізацыі павінны ўжыць рашучыя крокі па палепшаньню работы і агульных магазынаў.

У справе лепшай пастаноўкі забесьпячэньня рабочых, і ў першую чаргу ў прамысловых цэнтрах, адну з важнейшых роляй павінны адыграць прыгарадныя гаспадаркі.

Работа па арганізацыі і ўмацаваньню стану прыгарадных гаспадарак павінна пайсьці форсаванымі тэмпамі. Тым часам мы павінны констатаваць, што іх арганізацыя адбываецца марудна. У наяўнасьці ёсьць такія факты, калі ў гэтай рабоце асобныя органы часам ня ідуць насустрач ініцыятыве месц; ёсьць прыклады, калі ў справе арганізацыі прыгарадных гаспадарак ня выконваюцца і груба парушаюцца дырэктывы партыі. У сваёй пастанове па дакладу аб забесьпячэньні рабочых пленум ЦК КП(б)Б у адносінах да прыгарадных гаспадарак абавязаў Белкоопсаюз „дабіцца такога пашырэньня прыгарадных гаспадарак спажывецкай коопэрацыі, якое дало-б магчымасьць яшчэ ў 1931 годзе забясьпечыць большую частку патрэбы гарадоў БССР у гародніне з гэтых гаспадарак“. Гэтым пунктам пастановы вызначаецца той шырокі размах, які трэба надаць рабоце па разгортваньню будаўніцтва прыгарадных гаспадарак.

Грамадзкае харчаваньне спажывецкай коопэрацыяй БССР да гэтага часу было пастаўлена яўна нездавальняюча. На шэрагу буйных прадпрыемстваў сталоўка яшчэ не зрабілася цэхам прадпрыемства, сталоўкі не паставілі свае работы так, каб служыць задачам выкананьня прамфінпляну на фабрыках і заводах. Разгортваньне грамадзкага харчаваньня павінна быць і будзе палепшана, тым больш, што пленум ЦК у сваёй пастанове абавязаў стварыць адзінае кіраўніцтва справай грамадзкага харчаваньня ў сэнсе дапамогі ў падборы кадраў працаўнікоў, у сэнсе кіраўніцтва.

Вялікія па сваёй палітычнай важнасьці задачы паставіў пленум ЦК КП(б)Б і ў галіне рэорганізацыі вясковай коопэрацыйнай сеткі. Не пазьней, як на працягу паўтарамесячнага тэрміну, павінна быць закончана работа па рэорганізацыі нізавой вясковай коопэрацыйнай сеткі ў напрамку аднаўленьня выбарчых коопэратываў, у выніку чаго павінна быць устаноўлена большая сувязь спажывецкай коопэрацыі з разгортваньнем колектывізацыі, будаўніцтвам новых колгасаў і забесьпячэньнем за масамі колгасьнікаў кіруючай ролі ў рабоце спажывецкай коопэрацыі. Работа па рэорганізацыі павінна быць падпарадкавана хутчэйшаму і поўнаму выкананьню палітычных задач партыі на вёсцы па соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, задачам узмацненьня рашучага націску на кулака.

У сьвятле выкананьня гэтых задач з усёй вострасьцю паўстае пытаньне патрэбнасьці пролетарска вытрыманых, клясава-трывалых кад-

раў работнікаў для спажывецкай кооперацыі. Пленум ЦК пастанавіў мобілізаваць 100 адказных работнікаў на работу ў кооперацыі. Побач з іх правільным разьмеркаваньнем і скарыстаньнем на рабоце, мясцовыя парторганізацыі і кооперацыйныя органы павінны ўжыць рашучыя крокі па вылучэньню батракоў і актыўных колгасьнікаў на работу ў вясковай кооперацыйнай сетцы. Пытаньне падрыхтоўкі кадраў паўстае ва ўсёй сваёй велічыні. Таму Пленум ЦК прапанаваў адпаведным організацыям „пераглядзець існуючую сетку тэхнікумаў і курсаў і мэтавы напрамак праграмы“, з тым, каб падпарадкаваць работу гэтых устаноў задачам забесьпячэньня пролетарскі вытрыманымі кадрамі работнікаў.

Задачы, пастаўленыя Пленумам ЦК перад кооперацыяй, будуць выкананы толькі пры ўмове рашучага ачышчэньня органаў кооперацыі ад опортуністычных, эсэраўскіх, бундаўскіх і ўсялякіх соцыяльна чужых, бюрократычных элемэнтаў, якія заселі ў асобных зьвеньнях кооперацыйнага апарату.

Задачы, пастаўленыя Пленумам, будуць выкананы пры ўмове, калі парторганізацыі рашуча ўзмоцняць сваё кіраўніцтва кооперацыяй і павядуць бязьлітаснае змаганьне за правядзеньне генэральнай лініі партыі ва ўсёй яе рабоце.

---

З. Гінзбург

## За рашучую перабудову работы спажсыстэмы

Асноўнай задачай перабудовы работы спажсыстэмы зьяўляецца рашучы паварот яе тварам да індустрыялізацыі, да колгаснага руху. Работа стажсыстэмы павінна быць цесна зьвязана з вытворчымі задачамі важнейшых вучасткаў соцыялістычнага будаўніцтва, вытворчымі задачамі саўгасаў і колгасаў, з задачамі колгаснага руху.

Аднак, задачы пераважнага і першачарговага абслугоўваньня асноўных прамысловых груп рабочых соцыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі незаўсёды ацэньваліся кооперацыйнымі організацыямі. Аб гэтым сьведчыць рад фактаў практыкі работы паасобных ЦРК і райспажтаварыстваў.

Праца па разгортваньню сеткі зачыненых разьмеркавацеляў, якая распачалася ў верасьні, праходзіць марудна, без дастатковага ўліку неабходнасьці забесьпячэньня лепшай работы зачыненых разьмеркавацеляў, якія зьяўляюцца новай, апраўдаўшай сябе формай клясавага разьмеркаваньня продуктаў і тавараў.

Асобныя ЦРК, замест таго, каб мобілізаваць шырокія рабочыя масы вакол задачы організацыі зачыненых разьмеркавацеляў, хутка разгарнуць сетку іх, забясьпечыць нормальную работу іх з тым, каб зачыненыя разьмеркавацелі сапраўды пачалі абслугоўваць рабочых найбольш буйных прадпрыемстваў, пачалі разважаць, ці патрэбна наогул організацыя зачыненых разьмеркавацеляў? „Трэба быць дурнем, каб зразумець ідэю зачыненых разьмеркавацеляў ва ўмовах Барысаўшчыны“. (Член праўленьня Барысаўскага ЦРК).

Паасобныя ЦРК не жадалі прадастаўляць лепшыя памяшканьні пад зачыненыя разьмеркавацелі (Ворша, Магілеў), ня прымалі крокаў. для лепшага забесьпячэньня зачыненых разьмеркавацеляў з боку складаў і баз. Нават загадчык цэнтральнай базы Менскага ЦРК яшчэ ў лістападзе месяцы ня ведаў, што ў Менску існуюць зачыненыя разь-

меркавацелі. Гэтыя факты з дастатковай яскравасьцю сьведчаць пра опортуністычную недаацэнку некаторымі ЦРК гэтай важнейшай задачы, дзякуючы чаму ня былі скарыстаны ўсе магчымасьці, каб наладзіць працу зачыненых рабочых разьмеркавацеляў і паставіць яе на належную вышыню. Студзеньскі пленум ЦК КП(б)Б зьвярнуў асаблівую ўвагу на неабходнасьць безадкладнага зьнішчэньня недахопаў працы зачыненых разьмеркавацеляў, а таксама на грунтоўнае палепшаньне іх працы наогул.

З 15 лютага праводзіцца агляд становішча зачыненых разьмеркавацеляў, сталовых, які павінен мобілізаваць пролетарскую грамадзкасьць на выкараненьне недахопаў у працы зачыненых разьмеркавацеляў і сталовых і рашуча ўдарыць па опортуністычнай недаацэнцы, ня гледзячы на тое, адкуль яны будуць выходзіць. У выніку агляду працы зачыненых разьмеркавацеляў справа павінна будзе палепшыцца, павінны быць уведзены новыя рацыяналізатарскія мерапрыемствы: дастаўка тавараў на дом, безнаяўныя разьлікі і г. д.

Наступным этапам разьвіцьця зачыненых разьмеркавацеляў зьяўляюцца зачыненыя рабочыя коопэратывы (ЗРК).

Студзеньскі пленум ЦК КП(б)Б пастанавіў організаваць зачыненыя рабочыя коопэратывы пры ўсіх прадпрыемствах, якія налічваюць звыш 2000 рабочых і пры аднародных у вытворчых адносінах прадпрыемствах, якія налічваюць менш 2000 рабочых. Гэтыя зачыненыя рабочыя коопэратывы павінны быць самастойнымі коопэратывамі, непасрэдна падпарадкаванымі Белкоопсаюзу. Ва ўмовах БССР мяркуецца організаваць 12 зачыненых рабочых коопэратываў.

Апрача гэтага, Пленум ЦК КП(б)Б пастанавіў аднавіць транспортныя спажтаварыствы, што павінна забясьпечыць карэнны перелом у справе абслугоўваньня чыгуначнікаў

Гэтая работа павінна быць праведзена на працягу лютага месяца. Вакол гэтага важнейшага мерапрыемства павінна быць мобілізавана шырокая рабочая маса, павінен быць забясьпечан масавы рабочы контроль над правядзеньнем гэтае работы. Зачынены разьмеркавацель і яго наступны этап—зачынены рабочы коопэратыў, ёсьць практычная форма перабудовы работы спажывецкай коопэрацыі на падставе большай увязкі яе працы з вытворчымі задачамі важнейшых вучасткаў соцыялістычнага будаўніцтва. Зачынены рабочы коопэратыў павінен ператварыцца ў цэх харчаваньня прадпрыемства і павінен зьявіцца стымулам у выкананьні прамфінпляну.

Ні ў якім разе недапушчальна праяўленьне якой бы там ні было недаацэнкі гэтага мерапрыемства як з боку коопэрацыйных, так і заводзкіх організацый. Праявы нядбайнасьці, павольнасьці ў правядзеньні гэтага мерапрыемства з боку паасобных работнікаў спажсыстэмы павінны разглядацца як опортунізм, няздольнасьць выкананьня важнейшых дырэктыў партыі ў рашучай перабудове работы спажывецкай коопэрацыі.

Ня менш важнай задачай зьяўляецца выкананьне пастановы студзеньскага Пленуму ЦК КП(б)Б аб аднаўленьні выбарных коопэратываў на вёсцы. Праведзеная рэорганізацыя ў 1930 г. у бок злучэньня дробных спажтаварыстваў і організацыі раённых спажтаварыстваў, якая была праведзена без дастатковага ўдзелу коопэраваных мас, прывяла да адарванасьці сыстэмы, ад мас, да бюрократызму апарату спажсыстэмы і г. д. Работа спажсыстэмы была зусім слаба ўвязана з задачамі колгаснага руху.

Выкананьне пастановы студзеньскага Пленуму ЦК КП(б)Б аб організацыі сеткі спажывецкіх таварыстваў у межах аднаго або двух сельсаветаў, організацыі самастойных рабочых коопэратываў у саўгасах і на прадпрыемствах, якія

знаходзяцца ў сельскіх мясцовасьцях і якія налічваюць звыш 250 рабочых, павінна зрабіць карэнны пералом у працы спажсыстэмы на вёсцы ў бок рашучага павароту яе тварам да колектывізацыі.

Гэтая рэорганізацыя павінна ствавыць умовы для актыўнага ўдзелу коопэраваных мас у рабоце сыстэмы, забясьпечыць кіруючую ролю колгасьнікаў у яе рабоце і цесна ўвязаць работу спажкоопэрацыі з вытворчымі задачамі колгасаў і саўгасаў, задачамі колектывізацыі сельскае гаспадаркі. Работа па рэорганізацыі павінна ўзварушыць тысячныя масы пайнікаў, мобілізаваць іх вакол баявых задач, пастаўленых перад спажсыстэмай студзеньскім Пленумам ЦК КП(б)Б.

Уся работа па рэорганізацыі павінна быць скончана не пазьней 10 сакавіка, яна павінна праводзіцца баявымі тэмпамі. Мясцовыя організацыі павінны актыўна дапамагчы ў выкананьні гэтай адказнейшай задачы. Работа па правядзеньню рэорганізацыі сыстэмы павінна стаць у цэнтры ўвагі кіраўніцтва гэтай работай з боку партыйных організацый, якія павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу на адбор кіруючых работнікаў для ўзмацненьня і наладжваньня працы новых організаваных коопэратываў.

Выкананьне да тэрміну работы па організацыі зачыненых рабочых коопэратываў, па аднаўленьню транспортных спажтаварыстваў і рэорганізацыі сельскай сеткі будзе азначаць пачатак рашучай перабудовы работы ўсяе сыстэмы ў адпаведнасьці з патрабаваньнямі рэконструкцыйнага пэрыоду.

---

Рубін П.

## Зачыненыя разьмеркавацелі

*(Некаторыя вынікі работы)*

„Важнейшае значэньне набывае разгорнутая за апошні час сетка зачыненых разьмеркавацеляў на фабрыках і заводах, як новая організацыйная форма клясавага разьмеркаваньня продуктаў“. (Сьнежаньскі Пленум ЦК УсеКП(б)).

Організацыя зачыненых разьмеркавацеляў пачалася яшчэ ў верасьні м-цы мінулага году, і ў сучасны момант іх колькасьць складае больш 90 (120 проц. заданьня Белкоопсаюзу). Зачыненымі разьмеркавацелямі ахоплены асноўныя прамысловыя прадпрыемствы, чыгуначнікі, начсклад і шэраг дробных прадпрыемстваў. Па асноўных гарадох разьмеркавацелямі ахоплена больш 65 проц. усіх рабочых.

Пад зачыненыя разьмеркавацелі адведзены, за некаторым выключэньнем, лепшыя памяшканьні. Забесьпячэньне іх пастаўлена значна лепш, чым астатніх магазынаў. Першчарговасьць забесьпячэньня, лепшы і больш шырокі асортымэнт тавараў зрабілі зачыненыя разьмеркавацелі популярнымі сярод рабочых мас, якія належным чынам ацанілі іх значэньне і выяўляюць да іх вялікае спачуваньне.

Амаль што ўсе разьмеркавацелі пабудаваны па вытворчаму прынцыпу. Шэраг зачыненых разьмеркавацеляў маюць універсальны асортымэнт.

— „Вызначаны мне па норме цукар, крупы ды іншыя продукты я магу атрымаць з любога магазыну, а вось першачарговае атрыманьне прамтавараў ды яшчэ лепшага асортымэнту забясьпечвае мне толькі зачынены разьмеркавацель, і ў гэтым яго перавага“—такую ацэнку мы чуем ад многіх рабочых. Пад універсальны гандаль прыстасаваны толькі некаторыя асобныя памяшканьні, аднак, улічваючы інтэрэсы і жаданьні рабочых, ЦРК

адводзіць пад унівэрсальнае разьмеркаваньне і некаторыя менш прыстасаваныя магазыны.

Аднак, агульная недаацэнка рабочымі коопэратывамі значэньня зачыненых разьмеркавацеляў, зусім слабая ўвага да гэтай важнай справы мелі некаторыя недахопы. Пры плянаваньні сеткі разьмеркавацеляў Бабруйскі, Магілеўскі і некаторыя іншыя ЦРК не зразумелі сэнсу формы забесьпячэньня і рабілі зачыненыя разьмеркавацелі амаль што для ўсяго насельніцтва гораду, у тым ліку і для саматужнікаў. У той-жа час былі выпадкі яўнага нежаданьня адводзіць пад зачыненыя разьмеркавацелі свае добрыя магазыны (Магілеў). Аршанскі ЦРК нават адмаўляў прадастаўяць пад зачынены разьмеркавацель чыгуначнікаў добры і прыстасаваны магазын былога ТСТ, а член праўленьня Барысаўскага ЦРК нават казаў, што „трэба быць дурнем, каб зразумець ідэю зачыненых разьмеркавацеляў ва ўмовах Барысава“.

Справа зачыненых разьмеркавацеляў на мясцох не популярызавалася сярод шырокіх рабочых мас, як новая форма рабочага забесьпячэньня. На праведзеным нядаўна сходзе рабочых шкլазаводу імя Домбаля (Барысаў) было запытаньне, што такое зачынены разьмеркавацель.

Зусім слабую растлумачальную працу сярод рабочых пры арганізацыі разьмеркавацеля праводзіў Віцебскі ЦРК.

Часта парушаўся прынцып і парадак прымацаваньня да разьмеркавацеляў. Прымацаваньне рабілася на падставе пісулек. Прымацоўваліся асобы, якія часта ніякіх адносін да гэтага ня маюць, а проста па погляду загадчыка магазыну (Барысаў). Былі нават выпадкі прымацаваньня да зачыненых разьмеркавацеляў і асобных груп служачых (служачыя конторы Белшвэйтрэсту). Толькі пасьля катэгорычных прапаноў Белкоопсаюзу ўдалося ўнесьці ў гэтую справу некаторую выразнасьць.

Па шмат якіх зачыненых разьмеркавацелях (Магілеў, Барысаў ды інш.) да гэтага часу не ўдалося наладзіць вучоту прымацаваных, і таму завоз продуктаў робіцца „на вока“. Наглядаецца поўная адсутнасьць плянавасьці і сыстэмы пры завозе тавараў у магазыны ў шмат якіх організацыях. У тыя дні, на якія абвешчана выдача вызначаных тавараў, іх у разьмеркавацелі ня бывае. Дапушчаліся перабоі ў забесьпячэньні зачыненых разьмеркавацеляў такімі таварамі, якія ў даны момант былі ў наяўнасьці на складах (Віцебск, Барысаў). Завоз тавараў у зачыненыя разьмеркавацелі рабіўся няроўнамерна, і разьмеркавацелі, якія абслугоўвалі аднолькавай значнасьці прадпрыемствы, забясьпечваліся неаднолькава (Менск). Устаноўлены факты, калі ў зачыненых разьмеркавацелях былі тавары горшага асортымэнту, чым у адчыненых. Гэта тлумачыцца агульнай недаацэнкай і неразуменьнем значэньня зачыненых разьмеркавацеляў з боку некаторых ЦРК, а таксама неахайнасьцю ў іх працы. У Менску, напрыклад, загадчык складу на працягу паўтара м-ца ня ведаў аб організацыі сеткі зачыненых разьмеркавацеляў.

Зачынены разьмеркавацель № 2 Бабруйскага ЦРК адпускаў гароднiну па ордэрах (талёнах) у той час, калі з адчыненых магазынаў яна адпускалася толькі па прад'яўленьні членскай кніжкі. Гэта, зразумела, прывяло да ўтварэньня „рацыянальных“ чаргаў.

Вельмі слабым месцам зьяўляюцца пытаньні прыстасаваньня новых рацыянальных форм разьмеркаваньня і рацыяналізацыі процэсаў працы зачыненых разьмеркавацеляў у цэлым. Шмат зачыненых разьмеркавацеляў адзначаецца ў гэтых адносінах толькі перафарбаванымі шыльдамі, а Барысаўскі ЦРК нават і шыльды не перафарбаваў. Чарга і таўханіна—звычайнае зья-

вішча шэрагу разьмеркавацеляў. Гэта тлумачыцца вельмі шырокім унівэрсалізмам асортымэнту пры непрыстасаванасьці памяшканьняў, перагружанасьці некаторых магазынаў і поўнай адсутнасьці якіх бы там ні было рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў.

Фасоўка тавараў—гэта той рацмінімум (рацмаксымум!), які больш-менш здавальняюча праводзіцца ў разьмеркавацелях. Сыстэма папярэдніх заказаў, дастаўкі тавараў на дом і безнаяўных разьлікаў толькі цяпер ставіцца на абмеркаваньне і праводзіцца як вопыт па асобных разьмеркавацелях. Большая частка работнікаў сеткі мае цьмянае уяўленьне аб рацмінімуме.

Рацыяналізатарская думка наогул вельмі марудна прабівае свой шлях у сыстэме спажывецкай коопэрацыі БССР. Аб рацыяналізацыі пішуць рэалізатары, а рацыяналізатараў нагружаюць працай, якая іх зусім ня тычыцца.

Зусім слаба разгорнута грамадзкая думка вакол зачыненых разьмеркавацеляў. Наглядаюцца асобныя растраты і выпадкі протэкцыянізму і самазабесьпячэньня. Соцспаборніцтва і ўдарніцтва адчуваюцца толькі ў дагаварох.

Асобныя заўкомы яшчэ не ўсьвядомілі сабе іх ролі ў адносінах да зачыненых разьмеркавацеляў, як да цэху прадпрыемства. Замест сапраўднага кіраўніцтва яны абмяжоўваюцца пісулькамі аб выдачы тавараў, аб прыпісцы спажыўцоў і г. д.

Усе пералічаныя недахопы павінны быць са ўсёй рашучасьцю зьнішчаны, а тыя дасягненьні, якія ёсьць, павінны распаўсюдзіцца на ўсю сыстэму. Пастановы сьнежанскага аб'яднанага Пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б) і студзенскага Пленуму ЦК КП(б)Б павінны, нарэшце, стварыць сапраўдны пералом у справе разгортваньня і рацыянальнай пастаноўкі работы зачыненых разьмеркавацеляў.

---

**Валкавіцкі**

## За выбарную коопэрацыю

Праведзеная рэорганізацыя сыстэмы ў напрамку перабудовы яе па прынцыпу організацыі шматкрамных с. т., прыстасоўваючы іх да граніц адміністрацыйных раёнаў, прывяла да рэальнай магчымасьці стварэньня адзінай гаспадаркі ў рамках раёну і тым самым у гэтых адносінах зьявілася дасягненьнем, якое забясьпечвае рацыянальнае будаўніцтва сыстэмы і процэсаў яе работы.

Але-ж пры правядзеньні рэорганізацыі ня былі створаны ўмовы, якія забясьпечвалі-б удзел пайнікаў у кіраўніцтве коопэрацыйнай работай, што прывяло да адрыву коопэратыву ад коопэраваных мас, зьмяншэньня іх актыўнасьці і да разьвіцьця бюрократызму ў раённых організацыях, а таксама да шэрагу буйных прарываў на важнейшых вучастках работы.

Кіраўніцтва с. т. знаходзілася на далёкай адлегласьці ад масы пайнікаў. Ёсьць такія раёны, дзе крамы знаходзяцца на 50-60 кілёмэтраў ад цэнтру праўленьня. Апарат на месцы, праўдзівей загадчыкі крам, працавалі бясконтрольна і рабілі, што ім хацелася, бо яны не адчувалі адказнасьці перад масай пайнікаў. Асноўныя дэфіцытныя тавары заставаліся ў цэнтры раёну, дзе знаходзіцца праўленьне. Ёсьць такія раёны, дзе спажыўцом прыходзілася хадзіць за атрыманьнем тавараў па 10-15 кілёмэтраў.

Пленум ЦК і ЦКК УсеКП(б) даў катэгорычную дырэктыву аб аднаўленьні выбарных коопэратываў на вёсцы, аб наладжваньні боль-

шай сувязі коопэрацыі з разгортваньнем колгаснага руху і будаўніцтва саўгасаў і набліжэньні кіраўніцтва да масы пайнікаў. У выкананьні дырэктыў сьнежаньскага Пленуму ЦК і ЦКК і студзеньскага Пленуму ЦК КП(б)Б Белкоопсаюзам распрацован плян рэорганізацыі і перабудовы сеткі, які павінен быць ажыцьцёўлены і праведзены ў жыцьцё да 15-III. У асноўным сетка павінна быць пабудавана наступным чынам: у сельсаветах з колькасьцю 800 гаспадарак арганізуецца СельСТ ў межах сельсавету. У астатніх сельсаветах з колькасьцю менш 800 гаспадарак організуецца СельПО на 2 сельсаветы.

Пры саўгасах з колькасьцю ня менш 250 рабочых организуюцца самастойныя рабкоопы.

Для прадпрыемстваў, якія знаходзяцца ў глыбінных пунктах раёну і маюць звыш 250 рабочых, арганізуюцца зачыненыя рабкоопы.

У астатніх саўгасах, дзе ня будуць арганізаваны зачыненыя рабкоопы, павінны быць організаваны зачыненыя разьмеркавацелі. Максымальна павінна быць набліжана крамная сетка да колгасаў.

СельСТ, ГарСТ з РК зьяўляюцца самастойнымі гаспадарчымі адзінкамі: организуюць разьмеркаваньне тавараў, организуюць і вядуць нарыхтоўчыя опэрацыі, організуюць грамадзкае харчаваньне і сельгаспрадпрыемстваў, организуюць культбытавую і масавую працу, вядуць сваю справаздачнасьць і вучот, праводзяць коопэраваньне насельніцтва і мобілізацыю сродкаў.

Для аб'яднаньня работы СельСТ, ГарСТ з РК у межах кожнага раёну організуюцца райспажсаюзы, якія яднаюць усю закупачную працу і організуюць таварапрасоўваньне, организуюць адзіную фінансавую гаспадарку, кіруюць усёй плянавай працай, кіруюць усёй масавай организацыйнай і бытавой працай сеткі, кіруюць і организуюць нарыхтоўчыя опэрацыі.

Да пачатку правядзеньня непасрэднай работы па рэорганізацыі сыстэмы павінна быць праведзена шырокая растлумачальная работа з мэтай популярызацыі задач рэорганізацыі на падставе пастаноў Пленумаў ЦК і ЦКК УсеКП(б) і КП(б)Б праз правядзеньне спэцыяльных сходаў рабочых, колгасьнікаў, батрацтва і беднаты, жанчын, моладзі і г. д.

Для практычнага правядзеньня рэорганізацыі і перабудовы вясковай сеткі ў кожным раёне организуецца оргбюро з прадстаўнікоў мясцовых организацый і РСТ.

Уся праца па рэорганізацыі павінна быць праведзена такім чынам, каб яна ні ў якім разе не перашкаджала выкананьню асноўных задач, а, наадварот, у гэты пэрыод, на базе разгортваньня шырокай масавай работы, праца і тэмпы па мобілізацыі сродкаў таварапрасоўваньня, па падрыхтоўцы да пасеўнай кампаніі, па коопэраваньню павінны быць значна пасілены.

# На сустрэчу 2-й бальшавіцкай

## Усесаюзны конкурс

### на лепшае спажывецкае таварыства па правядзеньню вясеньняй сельскагаспадарчай кампаніі 1931 года

1. У мэтах найлепшай організацыі спажкоопэрацыяй абслугоўваньня другой бальшавіцкай вясеньняй сельскагаспадарчай кампаніі, шырокага разгортваньня гэтых задач, мэтодаў соцспаборніцтва і ўдарніцтва, Праўленьне Цэнтросаюзу абвяшчае конкурс на лепшае сельскае спажывецкае таварыства па правядзеньню гэтай кампаніі ў кожнай рэспубліцы, краіне і вобласьці.

2. Організаваны конкурс на лепшае спажтаварыства павінен спрыяць мобілізацыі коопэраваных мас рабочых саўгасаў, МТС, колгасьнікаў, беднякоў, серадшякоў, адзінаасобнікаў на рэалізацыю рашэньняў сьнежаньскага Пленуму ЦК і ЦКК Усе КП(б) аб рабоце спажкоопэрацыі і такім чынам садзейнічаць выкананьню і перавыкананьню пасеўных плянаў, правядзеньню мерапрыемстваў па павялічэньню ўраджайнасьці, умацаваньню існуючых колгасаў і ўцягненьню бядняцка-серадняцкай масы адзінаасобнікаў у колгасы.

### УМОВЫ КОНКУРСУ

У конкурсе ўдзельнічаюць усе спажтаварыствы СССР. Тэрмін конкурсу ўстанаўляецца з 1 лютага г.г. і да сканчэньня вясеньняй сельскагаспадарчай кампаніі. Для раёнаў першай чаргі засеву—15 мая, для раёнаў другой чаргі—1 чэрвеня і для раёнаў 3 чаргі—15 чэрвеня.

Конкурс праводзіцца па наступных паказальніках работ:

### I. Забесьпячэньне прамтаварамі

1. Забесьпячэньне сваячасовага і максымальнага задавальненьня патрэб у вытворча-тэхнічным матэрыяле, у першую чаргу саўгасаў і калгасаў (жалезам і кавальскім вугалем для рамонту інвэнтару і машын), а таксама дробным сельскагаспадарчым інвэнтаром (граблі, рыдлёўкі, вілы, калёсы, збруя, вяроўкі і г. д.).

2. Забесьпячэньне сваячасовага завозу гаручага і змазачнага матэрыялу, а таксама бесьперабойнае забесьпячэньне ім трактараў саўгасаў, МТС і колгасаў.

3. Лепшая організацыя забесьпячэньня прамтаварамі ў пэрыод вясеньняй пасеўнай кампаніі: прыстасаваньне гандлёвае сеткі (крам, ларкоў, развознага і разноснага гандлю) і гадзін гандлю, правядзеньне лепшых формаў разьмеркаваньня тавараў, пераважна і ў першую чаргу забесьпячэньне рабочых саўгасаў, МТС і колгасьнікаў, організацыя забесьпячэньня асобных колгасаў у залежнасьці ад ступені выканачьня імі вытворчых плянаў, а ўнутры колгасаў вылучэньне ў асобную групу для першачарговага забесьпячэньня ўдарнікаў, паставіўшы таваразабесьпячэньне цалкам на службу выкананьню плянаў засеву і колектывізацыі вёскі.

4. Мобілізацыя ўнутраных прамтаварных і харчовых рэсурсаў для патрэб пасеўкампаніі.

### II. Грамадзкае харчаваньне

1. Найлепшая організацыя грамадзкага харчаваньня ў саўгасах пры стопроцантным ахопе рабочых саўгасаў і МТС.

2. Найлепшая організацыя грамадзкага харчаваньня на полі ў пэрыод засеву для колгасьнікаў за лік іх рэсурсаў, а таксама організацыя хлебапячэньня.

3. Найлепшая організацыя культурных чайных і правядзеньне ў іх культурнай работы, якая садзейнічала-б выкананьню пляну вясеньняга севу і колектывізацыі вёскі.

### III. Бытавыя мерапрыемствы

1. Лепшая організацыя бытавога абслугоўваньня рабочых саўгасаў, МТС і колгасьнікаў (яслі, сады, пляцоўкі, консультацыі, пашыўныя майстэрні і г. д.).

2. Найбольшыя дасягненьні па прыцягненьню сродкаў насельніцтва на організацыю бытавых мерапрыемстваў.

### IV. Культработа

1. Перавыкананьне пляну па распаўсюджваньні масавай літаратуры, прызначанай для вясеньняй пасеўнай кампаніі, па пытаньнях засеву, колектывізацыі, і культурнага будаўніцтва.

2. Організацыя кніганоства і лепшае абслугоўваньне ім вясеньняй пасеўнай кампаніі.

3. Лепшае абслугоўваньне рабочых саўгасаў, МТС, колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкае часткі адзінаасобнікаў праз кіно, радыё, гутаркі, лекцыі, агіт-мастацкую работу і на аснове гэтага разгортваньне пропаганды за выкананьне плянаў засеву і колектывізацыі вёскі.

4. Лепшая работа па правядзеньню курсаў, нарад, сходаў коопактыву і дасягненьне лепшых вынікаў па падрыхтоўцы яго да правядзеньня вясеньняй сельскагаспадарчай кампаніі.

5. Лепшая работа коопкуткоў і коопгурткоў, лепшая пастаноўка ў іх пропаганды мерапрыемстваў, якія зьвязаны з правядзеньнем вясеньняга севу і колектывізацыі вёскі, а таксама з організацыяй соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Лепшая організацыя і высьвятленьне ў друку работы спажтаварыстваў, насьценгазэт у час вясеньняй сельскагаспадарчай кампаніі, організацыя насьценных газэт спажтаварыстваў.

### V. Грамадзка-масавая работа

1. Найлепшая організацыя актыву пайнікаў з рабочых саўгасаў, МТС, батракоў і беднаты, колгасьнікаў, жанактыву, моладзі і дэмобілізаваных чырвонаармейцаў навакол мерапрыемстваў коопэратыву па правядзеньню вясеньняга севу, дасягненьне лепшых вынікаў работы спажкоопэрацыі па колектывізацыі вёскі ў пэрыод вясеньняга севу, стварэньне ініцыятыўных груп, буксірных брыгад, вярбовачных комісій і г. д., організацыя новых колгасаў сіламі коопэрацыйнага актыву спажтаварыства.

2. Організацыя грамадзка-масавага контролю над асобнымі прадпрыемствамі коопэратываў, якія зьвязаны з організацыяй вясеньняга севу.

3. Організацыя соцспаборніцтва і ўдарніцтва паміж асобнымі прадпрыемствамі коопэратыву (магазын, ларок, сталоўка) і сярод работнікаў апарату і коопактыву.

4. Лепшая работа па ўцягненьню жанчын і моладзі ў работу спажтаварыства па організацыі севу і колектывізацыі вёскі.

5. Лепшае правядзеньне рэорганізацыі сеткі, якая гарантуе пераважнае забесьпячэньне саўгасаў і колгасаў у сувязі з вясеньняй сельскагаспадарчай кампаніяй.

6. Організацыя дапамогі грамадзкага буксіру суседняму адсталаму стпажтаварыству.

### КОНТРОЛЬНЫЯ ПАСТЫ ШТАБУ

1. Усе рэспубліканскія, краёвыя, абласныя і нацыянальныя саюзы ўключаюцца ў конкурс, кіруюць правядзеньнем яго і нясуць адказнасьць за разгортваньне конкурсу па сыстэме.

2. У мэтах устанаўленьня сталага кіраўніцтва і контролю за ўдзелам спажтаварыстваў ва ўсесаюзным конкурсе пры рэспубліканскіх, краёвых, абласных і нацыянальных саюзах організуецца аб'яднаны штаб па кіраўніцтву конкурсам з прадстаўнікоў спажсаюзу, краёвай газэты, Колгасцэнтру, профсаюзу і комсамолу.

3. У раённых цэнтрах для кіраўніцтва і контролю над работай спажтаварыстваў ды іх асобных частак організуюцца контрольна-наглядальныя пасты з прадстаўнікоў РайСТ (райсаюзу пасьля рэорганізацыі сеткі), раённай газэты, колгассаюзу, профсаюзу і комсамолу.

4. Конкурс праводзяць на старонках газэт „Кооперативная жизнь" і „Социалистическое Земледелие" у цэнтры, на мясцох—на старонках рэспубліканскіх, краёвых, абласных і раённых газэт па ўзгадненьню з саюзамі і адпаведнымі рэдакцыямі. Матэрыялы па высьвятленьню работы лепшых коопэратываў на ўсесаюзныя і абласныя конкурсы дасылаюць як асобныя работнікі, корэспондэнты мясцовых газэт, так і раённа-контрольныя пасты, профэсіянальныя і савецкія органы.

5. Рэспубліканскія краёвыя і абласныя саюзы сумесна з рэдакцыямі газэт у прыстасаваньні да сваіх плянаў, асаблівасьцяй краю і ўмоў работы могуць конкрэтызаваць умовы конкурсу па асобных галінах работы.

6. Для кіраўніцтва конкурсаў у цэнтры складаецца цэнтральны штаб з прадстаўнікоў Цэнтросаюзу, Колгасцэнтру, Наркомзему, УсеЦСПС, ЦК комсамолу, рэдакцый газэт „Кооперативная жизнь" і „Социалистическое Земледелие". Організацыя і правядзеньне конкурсу ўскладаецца на орг.—мас. сэктар Цэнтросаюзу.

7. Для прызначэньня прэміі ствараецца журы з прадстаўнікоў Праўленьня Цэнтросаюзу, Наркомзему, Колгасцэнтру і рэдакцый газэт „Кооперативная жизнь" і „Социалистическое Земледелие".

### ПРЭМІІ

1. Для прэм'яваньня лепшых спажтаварыстваў Цэнтросаюз вылучае 10 прэмій каштоўнасьцю ад аднэй да пяці тысяч рублёў кожная, пры чым прэміі будуць выданы на задавальненьне мастацкіх і культурна-бытавых патрэб пайнікаў (аўтомашыны, абсталяваньне клюбаў, кіно, сталовых, ясьляў ды інш.).

2. Рэспублiканскія, краёвыя і абласныя саюзы вылучаюць самастойна грашовыя фонды для правядзеньня конкурсу і ўстанаўляюць прэміі для коопэратываў, ударных брыгад і асобных ударнікаў.

3. У раённых цэнтрах, на аснове дырэктыў рэспубліканскіх і абласных саюзаў, ствараюцца фонды прэм'яваньня ўдарных брыгад і асобных ударнікаў, а таксама вылучаецца асобны фонд для прэм'яваньня ўдарніц-жанчын.

П. п. Нам. старш. праўленьня Цэнтросаюзу *Кірыевскі*

Заг. орг.-мас. сэктару *Меграбян*

---

## Пастанова Праўленьня Белкоопсаюзу ад 13 лютага 1931 году

Надаючы выключна важнае значэньне пасьпяховаму правядзеньню другой бальшавіцкай вясны, мобілізацыі актыўнасьці коопэраваных мас на выкананьне ўсіх задач, пастаўленых перад спажкоопэрацыяй, БКС пастанаўляе:

1. Уключыцца ва ўсесаюзны конкурс, прыняўшы яго ўмовы. Адначасова абвясьціць усебеларускі конкурс на лепшае спажтаварыства па правядзеньню вясновай пасеўнай кампаніі, паклаўшы ў аснову наступныя задачы: шырокае разгорт-

ваньне агітацыйна-масавай працы па колектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, організацыю пры спажтаварыствах груп садзейнічаньня колектывізацыі, належную пастаноўку і дасягненьне конкрэтных вынікаў іхняй працы, поўнае і сваячасовае выкананьне плянаў па нарыхтоўцы насеньня, гарантаваньне сваячасовага і максымальнага задавальненьня патрэб вясеньняй пасеўнай кампаніі вытворча-тэхнічнымі матэрыяламі, у першую чаргу, патрэб саўгасаў, машына-трактарных станцый і калгасаў, лепшую організацыю забесьпячэньня прамтаварамі рабочых саўгасаў, МТС, колгасьнікаў, беднякоў, серадняков, адзінаасобнікаў, лепшую організацыю грамадзкага харчаваньня ў саўгасах пры стопроцантным ахопе рабочых саўгасаў і МТС, праяўленьне максымальнай дапамогі колгасам па організацыі грамадзкага харчаваньня, лепшую організацыю бытавога і культурнага абслугоўваньня, шырокае разгортваньне масавай працы з пайнікамі і коопактывам у час вясеньняй пасеўнай кампаніі, праводзячы ўсе гэтыя мерапрыемствы на аснове шырокага разгортваньня соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

2. Вылучыць фонд у суме 10.000 р. для прэм'яваньня спажывецкіх таварыстваў, ударных брыгад і асобных ударнікаў, паказаўшых лепшыя прыклады барацьбы за другі бальшавіцкі сеў.

Прэміі ўстанавіць наступныя: 4 прэміі каштоўнасьцю па 1500 р., 6 прэмій каштоўнасьцю па 500 р., 6 прэмій каштоўнасьцю па 100 р. і 8 прэмій каштоўнасьцю па 50 р. кожная, пры чым прэміі будуць выдадзены на задавальненьне культурна - бытавых патрэб пайнікаў (абсталяваньне кіно, сталовых, дзіцячых ясьляў і г. д.).

Прэміі каштоўнасьцю ў 100 руб. і 50 руб. будуць выдадзены для прэм'яваньня лепшых ударных брыгад і ўдарнікаў.

3. Для кіраўніцтва конкурсам скласьці штаб з прадстаўнікоў Белкоопсаюзу, Белколгасцэнтру, ЦСПСБ, рэдакцыі газэты „Беларуская Вёска“ і ЦК ЛКСМБ. Організацыю конкурсу ўскласьці на оргмасавы сэктар Белкоопсаюзу.

4. Конкурс праводзіць на старонках газэты „Беларуская Вёска“.

5. Удзел ва ўсебеларускім конкурсе вызначаецца падачай з боку СельСТ у оргмасавы сэктар, ці рэдакцыю газэты „Беларуская Вёска“ адпаведнай заяўкі.

6. З мэтай хутчэйшага разгортваньня гэтай працы, а таксама мобілізацыі ўвагі коопэраваных мас вакол задач абвешчанага конкурсу прапанаваць спажывецкім таварыствам безадкладна разгарнуць шырокую масавую працу сярод пайнікаў, коопактыву аб задачах абвешчанага конкурсу.

7. Абавязаць усе спажтаварыствы кожныя 10 дзён інформаваць оргмасавы сэктар Белкоопсаюзу аб ходзе разгортваньня працы па правядзеньню конкурсу.

Старшыня Праўленьня
Белкоопсаюзу *Хаскін*
Сэкратар *Комар*

---

Я. Валожын

## Сваячасова падрыхтавацца да вясеньняй с.-г. кампаніі

Другая бальшавіцкая вясеньняя пасеўная кампанія набывае выключна важнае палітычнае і эканомічнае значэньне для ўсяго соцыялістычнага будаўніцтва нашай краіны. Вясеньняя пасеўная кампанія зьяўляецца рашаючым этапам у выкананьні і перавыкананьні пяцігадовага пляну соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі.

Другая бальшавіцкая сяўба ў барацьбе за новы магутны колгасны

прыліў, за разгортваньне новых саўгасаў, будаўніцтва новых машына-трактарных станцый, сустрэне актыўнае супраціўленьне клясавага ворага—кулака, які сваёй шкодніцкай дзейнасьцю будзе імкнуцца сарваць вызначаныя партыяй і савецкай уладай мерапрыемствы па соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі. Гэта высоўвае перад усімі організацыямі, якія працуюць на вёсцы, задачу ўсямернай мобілізацыі актыўнасьці батрацтва, беднаты, колгасьнікаў і серадпякоў-адзінаасобнікаў на барацьбу за далейшую колектывізацыю сельскай гаспадаркі і далейшы рашучы соцыялістычны наступ на капіталістычныя элемэнты па ўсім фронце і ліквідаваньне кулацтва як клясы, на базе суцэльнай колектывізацыі.

Гэтая задача для спажывецкай коопэрацыі ў сучасны момант зьяўляецца найбольш актуальнай. Роля апошняй на вёсцы вялізарнейшая, тым часам як ступень яе ўдзелу ў організацыі колгаснага прыліву зьяўляецца зусім недастатковай.

Да гэтага часу ўдзел спажывецкай коопэрацыі ў колектывізацыі абмяжоўваўся толькі складаньнем і разьмеркаваньнем фондаў колектывізацыі батрацтва і беднаты, але гэтага зараз зусім недастаткова.

Мэтодам непасрэднага ўдзелу спажывецкай сыстэмы ў барацьбе за колектывізацыю павінны зьявіцца групы садзейнічаньня колектывізацыі пры СельСТ. Гэтыя групы складаюцца з найбольш перадавых батракоў, беднякоў і серадпякоў, пайнікаў спажывецкай коопэрацыі, якія зьяўляюцца ініцыятарамі організацыі колгасаў і праводзяць агітацыю сярод адзінаасобнікаў, батрацка-бядняцкіх і серадняцкіх мас за ўступленьне ў колгасы.

Гэтая задача можа быць выканана толькі пры стварэньні шырокай грамадзкай думкі вакол працы ініцыятыўных груп у спажывецкай коопэрацыі.

Тэмп падрыхтоўкі да вясеньняй пасеўнай кампаніі спажывецкай сыстэмы ўсё яшчэ застаецца зусім марудным. Ёсьць шэраг спажывецкіх таварыстваў, якія праваопортуністычна адносяцца да гэтай важнейшай палітычнай кампаніі, якія яшчэ нават ня вызначылі конкрэтных практычных мерапрыемстваў па падрыхтоўцы і правядзеньню вясеньняй пасеўнай кампаніі.

Неабходна зараз-жа ўсім спажывецкім таварыствам разгарнуць шырокую масавую працу сярод пайнікаў, коопактыву па растлумачэньню задач другой бальшавіцкай вясны, неабходна мобілізаваць усе сілы коопэрацыйнага актыву, батрацка-бядняцкіх груп і ўвесь коопэрацыйны апарат на вёсцы для актыўнага ўдзелу ў організацыі пропаганды мерапрыемстваў, якія зьвязаны з правядзеньнем вясеньняй пасеўнай кампаніі, а ўласна: па выкананьню і перавыкананьню плянаў пасеву, правядзеньню агропалепшаньня, якое забясьпечвае узьняцьце ўраджайнасьці, па організацыі далейшага прыліву бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у колгасы, па ўзьняцьцю жывёлагадоўлі і г. д.

Належную ролю ў пасьпяховым правядзеньні вясеньняга севу павінна адыграць сваячасовая і правільная організацыя спажывецкімі таварыствамі гаспадарчага абслугоўваньня патрэб вясеньняга севу (забесьпячэньне трактараў гаручым матар'ялам, забесьпячэньне рабочых саўгасаў і МТС, колгасьнікаў, організацыя грамадзкага харчаваньня, гаспадарчая дапамога колгасам і беднаце, організацыя бытавых мерапрыемстваў, удзел у рамонце інвэнтару і г. д.).

Культурная праца спажывецкай коопэрацыі павінна быць цалкам падпарадкавана задачам вясеньняй пасеўнай кампаніі. Неабходна зараз-жа прыступіць да організацыі шырокай сеткі кнігаштоў па распаўсюджваньні літаратуры да вясеньняй пасеўнай кампаніі, забясьпечыць бесьперабойную працу кіно-перасовак ірадыё-ўстановак, наладзіць працу коопгурткоў і коопкуткоў.

Праўленьнем Цэнтросаюзу абвешчан усесаюзны і Праўленьнем Белкоопсаюзу — усебеларускі конкурс на лепшае спажывецкае таварыства па правядзеньню вясеньняй пасеўнай кампаніі. Для прэм'яваньня лепшых спажывецкіх таварыстваў, асобных працаўнікоў і актывістых, якія паказалі лепшыя прыклады барацьбы за бальшавіцкі сеў, Праўленьне БКС вылучыла фонд у суме 10.000 руб. Неабходна ўсім арганізацыям спажывецкай коопэрацыі разгарнуць шырокую масавую працу популярызацыі ідэі конкурсу. Трэба, каб ня было ніводнага спажывецкага таварыства, якое ня ўключылася-б ва ўсесаюзны і ўсебеларускі конкурсы.

Як кепскія, так і добрыя бакі працы па падрыхтоўцы да вясеньняй пасеўнай кампаніі неабходна шырока высьвятляць у друку.

Усе гэтыя мерапрыемствы могуць быць выкананы пры ўмове, калі спажывецкія таварыствы прымуць у гэтым актыўны ўдзел, мобілізуючы грамадзкасьць на пасьпяховае выкананьне другой бальшавіцкай вясны.

---

Сулькіна

## Прыгарадныя гаспадаркі на сустрэчу 2-й бальшавіцкай вясьне

Організацыя прыгарадных гаспадарак зьяўляецца асноўным мерапрыемствам спажывецкай коопэрацыі ў сэнсе павялічэньня продуктовых рэсурсаў рэспублікі і гэтым самым палепшаньня рабочага забесьпячэньня.

Надаючы выключнае значэньне разьвіцьцю прыгарадных гаспадарак, студзеньскі Пленум ЦК КП(б)Б пастанавіў:

„Пленум ЦК зьвяртае асаблівую ўвагу ўсіх партыйных, профэсіянальных і савецкіх організацый, асабліва Наркомзему і Гарсавету, на неабходнасьць сконцэнтраваньня максымуму ўвагі навакол гэтага важнейшага мерапрыемства ў справе рабочага забесьпячэньня і прапануе штодзённай практычнай дапамогаю ажыцьцёвіць плян разьвіцьця прыгарадных гаспадарак спажывецкай коопэрацыі“.

Плян, які зацьверджан ЦК і СНК Беларусі, кажа аб сапраўдных бальшавіцкіх тэмпах росту: так, замест 1047 га агароднай плошчы ў 1930 г., павінна быць засеяна 56000 га ў 1931 г.; замест 4500 кароў у 1930 г. павінна быць 12000 у 1931 г., замест 4000 сьвіней у 1930 годзе павінна быць адкормлена 60.000 у 1931 г., парніковых рам павінна быць закладзена 50.000 і г. д.

Для выкананьня гэтага баявога заданьня партыі і ўраду рабочая коопэрацыя павінна быць добра падрыхтавана. Аднак становішча падрыхтоўкі прыгарадных гаспадарак да вясеньняй пасеўнай кампаніі зьяўляецца зусім нездавальняючым і не забясьпечваючым выкананьня заданьня. Пра гэта кажуць тыя матар'ялы, якія мы маем, і тое, што сыгналізуе пролетарская грамадзкасьць праз наш друк. Слабасьць падрыхтоўкі ў асноўным выяўляецца ў наступным: дзеля таго, каб выканаць заданьне, трэба ня толькі засеяць 56000 га, але і атрымаць максымальную эфэктыўнасьць ад кожнага гэктара; неабходна ўгноіць у дастатковай меры зямельную плошчу. Для гэтага павінна быць вывезена 350 вагонаў мінэральнага ўгнаеньня, акрам таго, павінна быць вывезена каля269,000 тон гною, сабрана попелу. У гэтым сэнсе зроблена пакуль што мала: усяго вывезена толькі 20 проц.

Дрэнна таксама ідзе комплектаваньне гаспадарак коньмі. Усяго да веснавой пасеўнай кампаніі ў гаспадарках павінна быць 2506 коняй, а ёсьць толькі 1500. Белмалжыўсаюз дрэнна выконвае дагавор з Белкоопсаюзам і ЦРК, праяўляе недастатковую ініцыятыву па закупцы коняй.

Зусім дрэнна стаіць справа з забесьпячэньнем гаспадарак насеньнем. У агародным насеньні па розных культурах адчуваецца патрэба ў 3.000 тон разам з бульбаю. Па некаторых культурах забясьпечанасьць насеньнем раўняецца 10-15 проц., а некаторых культур насеньня зусім няма.

Асноўнымі прычынамі такога цяжкога становішча зьяўляецца недаацэнка з боку ЦРК значэньня падрыхтоўкі да вясеньняй пасеўнай кампаніі прыгарадных гаспадарак, як асноўнай умовы выкананьня заданьня. Да гэтага часу маюць месца выпадкі, калі транспарт, не выкарыстоўваецца поўнасьцю, даходзіць да таго, што 30 коняй стаяць без работы, замест таго, каб мобілізаваць увесь транспорт на вывазку гною (Менск, Магілеў). Гэтак сама не скарыстоўваецца поўнасьцю рабочая сіла. Загатоўка насеньня ідзе вельмі марудна, замест мобілізацыі ўсіх сіл для забесьпячэньня гаспадарак насеньнем. Напр., Добрускі ЦРК на запытаньне, колькі ім загатоўлена насеньня для сваіх гародаў, адказвае, што ім было паслана запатрабаваньне на насеньне ў Белкоопсаюз, і на гэтым лічыць сваю місію скончанай. Такому абураючаму спакою павінен быць дадзен рашучы адпор. Для гэтага неабходна мобілізаваць рабочую грамадзкасьць. Усю працу прыгарадных гаспадарак і падрыхтоўку да вясеньняй пасеўнай кампаніі трэба паставіць пад сапраўдны рабочы контроль, бо да гэтага часу работа па прымацаваньню прыгарадных гаспадарак да фабрык і заводаў яшчэ не разгорнута; вялізнае значэньне ў гаспадарках мае таксама рабочая сіла. Патрэбы прыгарадных гаспадарак у пэрыод пасеўнай кампаніі ў сталай рабочай сіле выяўляюцца ў 4297 чалавек, а ёсьць у гаспадарках толькі 1584 чалавекі; акрамя гэтага, неабходна будзе мець 6856 сэзонных рабочых. Крыніц па забесьпячэньню гаспадарак рабочай сілай дзьве: падпісан дагавор з НКП на вярбоўку рабочай сілы, але гэта яшчэ толькі пачатак, на нас выпадае колёсальная работа па вярбоўцы рабочай сілы. У прымацаваныя НКП раёны да ЦРК павінны быць вылучаны спэцыяльныя вярбоўшчыкі для контрактацыі рабочай сілы, з гэтай мэтай грамадзкімі організацыямі павінна быць праведзена растлумачальная работа сярод бядняцкай і серадняцкай моладзі, у гэтых адносінах патрэбна дапамога комсамолу. Другая крыніца рабочай сілы для прыгарадных гаспадарак—гэта грамадзкая адпрацоўка рабочых і служачых на прыгарадных гаспадарках у летнія часы.

Усе вышэйпаданыя заданьні і асноўныя мерапрыемствы для выкананьня гэтых заданьняў яскрава кажуць аб тых вялізных задачах і вялікай адказнасьці, якая ўскладаецца на спажывецкую коопэрацыю ў галіне прыгарадных гаспадарак. Для выкананьня гэтых задач неабходна разгарнуць баявыя тэмпы падрыхтоўкі да вясеньняй пасеўнай кампаніі ў прыгарадных гаспадарках ЦРК шляхам жорсткай пролетарскай самакрытыкі і рашучага зьнішчэньня тых настрояў, якія базуюцца на об'ектыўных цяжкасьцях выкананьня гэтых задач.

Заданьне партыі і ўраду па разьвіцьцю прыгарадных гаспадарак будзе выканана.

**Сімховіч**

# Колькасьць павінна перайсьці ў якасьць

Калі паглядзець на шлях, які прайшла спажывецкая кооперацыя БССР у справе організацыі прыгарадных гаспадарак, дык мы ўбачым, што за адзін год работы ў гэтым кірунку дасягнуты вялікія посьпехі.

За адзін толькі год з нічога, бяз усякай сувязі з сельскагаспадарчай вытворчасьцю, бяз вопыту, бяз звычак створаны 35 гаспадарак пры 10 ЦРК і каля 35 пры раённых спажывецкіх таварыствах. За адзін год зямельная плошча пры 10 ЦРК павялічана да 26.000 га, а для РайСТ тысяч да 10. 35.000 га прыгараднай зямлі—гэта досыць вялікія лічбы нават для любога трэсту, які існуе ня першы год.

Гэтая лічба будзе выразьнейшаю, калі прыняць пад увагу напружанасьць зямельнага балансу ў прыгараднай зоне і той настрой зямельных установ, якія доўга не згаджаліся з тым, што спажкоопэрацыя займаецца сельскагаспадарчай вытворчасьцю. Трэба было напружыць усе сілы, каб зламаць гэтую ўпартасьць зямельных установ, і дабіцца аддачы гэтай плошчы, вядома, пры дапамозе партыйных і савецкіх органаў.

На адведзенай зямлі шырока разгарнулася будаўніцтва. Вырасьлі жывёльныя двары, сьвінарнікі, стайні, склады і г. д.

Досыць узмоцненым тэмпам пайшло комплектаваньне статку. Па гаспадарках ЦРК ужо ёсьць да 6.000 галоў буйнае рагатае жывёлы і да 3.500 сьвінаматак. Пасеўная плошча ў 1931 г. дасягае 100 проц. З гэтай плошчы агароды зоймуць 35,5 проц., травы—27,5 проц., зернавыя культуры—12,1 проц., корняклубняплоды—14,3 проц., іншыя—10 проц. Статак буйнае рагатае жывёлы будзе даведзены да 12.000, сьвінаматак павялічыцца да 6.000 і будзе адкормлена 64.000 сьвіней. Посьпехі вялізныя.

Бяда толькі ў тым, што ўсе вышэйзгаданыя дасягненьні выражаюцца колькаснымі паказальнікамі, якасныя-ж паказальнікі даюць адваротны малюнак.

Пачнем з зямельняй плошчы. Адведзеная зямельная плошча ЦРК у колькасьці 26.000 га па ўгодзьдзях разьмяркоўваецца так: ворнае зямлі 15.203 га, ці 58,15 проц. усяе плошчы; сенажаці 6374, ці 24,38 проц., выгану і пашы—472 га, ці 1,8 проц., іншых угодзьдзяў з няўдобіцамі 4050 га, ці 16 проц.

Такім чынам зямлі, якая можа быць у гэтым годзе выкарыстана пад малочна-агародна-сьвінагадоўчыя гаспадаркі, ёсьць 22.000 га. Калі адкінуць 5681 га, якія пойдуць пад агароды, сады і ягаднікі, дык з усёй ворнай зямлі ў 15.000 га застанецца каля 9.000 га і 6.374 га сенажаці, якія будуць утрымоўваць 12.000 галоў буйнае рагатае жывёлы, 6.000 сьвінаматак з прыплодам і да 2500 коняй. Калі паглядзець, як разьмеркавана зямельная плошча па асобных ЦРК, дык малюнак яшчэ больш пагаршаецца. Гомельскі ЦРК, напрыклад, які атрымаў заданьне на 900 га агароду, мае 857 га ўсяе ворнае зямлі, аналёгічны малюнак, праўда, не такі рэзкі, атрымліваецца і па Віцебску, дзе з адведзенай плошчы дужа цяжка выразаць 900 га пад агароды.

Якасьць зямлі па актах ацэнкі, далёка не задавальняе патрабаваньняў гароднае гаспадаркі, а мясьцінамі і пасеву кармавых культур, таму нельга чакаць належнага эфэкту ў гэтым годзе.

Яшчэ горш абстаіць справа з памерамі адведзеных зямельных вучасткаў. Адведзеная зямля не ўяўляе сабою буйных масываў, на якіх можна было-б організаваць сапраўды буйныя прыгарадныя гаспадаркі, а яны разьмеркаваны асобнымі невялікімі вучасткамі, што

выклікае неабходнасьць організацыі шмат якіх гаспадарак, што надзвычайна пагаршае справу. Так, напрыклад, Менскі ЦРК на плошчы ў 4664 га організуе 8 гаспадарак, Віцебскі на 3445 га—7 гаспадарак, Магілеўскі на 3680 га—6; Ворша на 1989—4, Мазыр на 1908—3 гасп., пры чым агульная плошча на некаторых гаспадарках не перавышае 300 га.

Гэтая шматлікасьць гаспадарак ня спрыяе, аднак, іхняй спэцыялізацыі, бо з прычыны іхняй дробнасьці ніводная з іх ня можа выканаць заданьня нават па аднэй галіне.

Організацыяй новых гаспадарак Белкоопсаюз ня кіруе. Цыркулярны ліст, які быў пасланы цэрабкоопам аб тым, каб пры організацыі новай гаспадаркі былі складзены хаця-б асноўныя меркаваньні організацыйнага пляну, каб былі створаны на мясцох аўторытэтныя комісіі для складаньня генэральнага пляну будаўніцтва, выбару месца пад сядзібы ды інш., а таксама, каб проект організацыі гаспадаркі па зацьверджаньні яго на месцы быў накіраваны ў БКС на зацьверджаньне, гэты ліст так і застаўся бяз вынікаў. Ды, па праўдзе кажучы, нават у БКС няма чалавека, які-б кіраваў гэтай справай і адказваў за яе.

Такім чынам гэтая шматлікасьць гаспадарак, якая вядзе да лішніх укладаў капіталу, павялічвае сабекошт продукцыі, якая не дае магчымасьці рэалізаваць выгоды буйнае спэцыялізаванае гаспадаркі ў адносінах мэханізацыі і ўвядзеньня прамысловых мэтадаў працы, а таксама плянавасьці, зьяўляецца, па нашай думцы, асноўным недахопам у справе разьвіцьця будаўніцтва прыгарадных гаспадарак і можа прывесьці да памылак, якія потым нельга будзе выправіць на працягу доўгага часу.

Што датычыцца выкананьня асобных мерапрыемстваў, дык і тут мы маем шэраг недахопаў. Заданьне паставіць у 1930 г. 4500 кароў выканана і нават перавыканана. Але ў гэтым і бяда, што яно выканана. Справа ў тым, што некаторыя, як відаць, толькі і стараліся выканаць, не клапоцячыся аб эфэктыўнасьці працы.

У гэтым лёгка пераканацца, калі ўзяць прадукцыйнасьць кароў за шэраг месяпаў.

| Месяцы | % надойных кароў | Мінімальны удой у літр. | Максімальны ўдой | Сярэдні ўдой |
|---|---|---|---|---|
| Чэрвень . . . | 24 | 3,6 | 8,7 | 6,6 |
| Ліпень . . . . | 24 | 3,6 | 8,7 | 6,6 |
| Жнівень . . . | 30 | 3,0 | 6 | 4,9 |
| Верасень . . . | 30 | 2,[illegible] | 5,7 | 4,5 |

У астатнія месяцы % нядойных кароў павялічваецца, а ўдоі зьмяншаюцца. Але, калі ў месяцах лістападзе—студзені можна тлумачыць нядойнасьць і малы ўдой апошнім пэрыодам цельнасьці, дык наяўнасьць у чэрвені—ліпені 24 проц. нядойных кароў з 3,6 літраў удою зьяўляецца проста злачынствам.

Мы лічым, што прыгарадныя малочныя фэрмы, якія організаваны выключна з мэтаю забесьпячэньня пролетарскага насельніцтва малаком, маюць права на існаваньне толькі пры ўкомплектаваньні іх высокапродукцыйнай жывёлай. Укомплектаваць-жа малочныя фэрмы чым выпадае, або ўсім, што мае рогі і хвост і носіць назву каровы, абы выканаць толькі заданьне,—гэта для дзяржавы дужа дарагая роскаш, якая не дасягае свае мэты, не дае тае продукцыі, якая патрэбна для рабочага забесьпячэньня.

Акрамя таго, надзвычайна шмат клопатаў маюць дзяржаўныя і кооперацыйныя організацыі па забесьпячэньню ўсяго гэтага сьмецьця кармамі, якія можна было-б выкарыстаць для падтрыманьня сапраўды продукцыйных кароў.

Ня лепшы малюнак мы маем і па другіх галінах (сьвінараспладненьне і сьвінаадкорм), але пра гэта ў наступны раз.

У заключэньне трэба адзначыць, што работа па прыгарадных гаспадарках па ЦРК ідзе самацёкам, бяз цьвёрдага кіраўніцтва і плянавасьці з боку БКС.

Асноўныя пытаньні, пытаньні організацыі новых гаспадарак, пытаньні расьлінаводзтва, як кармавой базы для малочных фэрмаў застаюцца па-за ўвагаю БКС, таму што ў сэктары сельскагаспадарчых прадпрыемстваў няма нават адпаведных працаўнікоў: няма агронома-організатара і няма агронома-расьлінавода. Як відаць, праўленьне БКС не ўяўляе сабе поўнасьцю ўсяе складанасьці і цяжкасьці гэтай справы. Ёсьць людзі, якія думаюць, што расьлінавод у сэктары зусім непатрэбен, таму што прыгарадныя гаспадаркі не зьяўляюцца гаспадаркамі зернавымі.

Пры ўсёй складанасьці і цяжкасьці падліку сельскагаспадарчае вытворчасьці ў сэктары няма нават статыстыка, а бяз добра пастаўленай статыстыкі, без належнага падліку ня можа быць і плянаваньня. Няма таксама ў сэктары чалавека, які мог-бы займацца пытаньнямі мэханізацыі працы ды інш. Такім чынам за адсутнасьцю шэрагу работнікаў шмат пытаньняў часамі вырашаецца наляту і без дастатковай праработкі іх.

---

**Рапапорт**

## Сустрэць па-бальшавіцку

Пасьпяховае правядзеньне 2-й бальшавіцкай вясны зьяўляецца аднэй з асноўных задач па выкананьню пяцігадовага пляну ў чатыры гады. Спажывецкая коопэрацыя ў часе правядзеньня веснавой сяўбы павінна мобілізаваць увесь коопактыў на мясцох для лепшага правядзеньня веснавога севу і колектывізацыі. Раённыя с. т. да гэтага часу ніякіх плянаў падрыхтоўкі да веснавой сяўбы не падрыхтавалі, ня гледзячы на тое, што з боку БКС было паслана шэраг дырэктыў. Раённыя с. т. яшчэ не ўсьвядомілі сабе тэй адказнай і важнай задачы, якую ставяць перад усёй савецкай грамадзкасьцю партыя і савецкая ўлада. Некаторыя РСТ застаюцца ў баку ад гэтай справы,—гэта, моў, ня наш абавязак. Такія адносіны некаторых РСТ зьяўляюцца праваопортуністычнымі і на справе затрымліваюць разгортваньне падрыхтоўкі да 2-й бальшавіцкай вясны.

Неабходна узяць работу РСТ пад контроль рабочых, колгасьнікаў і беднаты, праверыць падрыхтоўку РСТ да веснавой сяўбы, як падрыхтаваны насенныя культуры, с.-г. інвэнтар, сталоўкі для колгасаў і саўгасаў, дзіцячыя сады, яські, кінопerasоўкі і г. д.

З боку БКС вылучан фонд у 10.000 руб. для прэм'яваньня лепшых РСТ у падрыхтоўцы да веснавога севу.

РСТ неабходна разгарнуць паміж сабой соцспаборніцтва і ўдарніцтва з мэтаю лепшага правядзеньня 2-й бальшавіцкай вясны.

---

# Грамадзкае харчаваньне

Бічэўскі

## За прамфінплян у грамадзкім харчаваньні

Прамфінплян грамадзкага харчаваньня выконваецца слаба як у адносінах організацыі, так і якасьці харчаваньня і абслугоўваньня рабочых сталовак. Калі да гэтай справы падыйсьці з пункту погляду новых форм організацыі працы, як спаборніцтва і ударніцтва, пры дапамозе якіх дасягаецца выкананьне і перавыкананьне прамфінпляnaў, дык у грамадзкім харчаваньні мы наглядаем зусім другое.

ЦРК і РК у большасьці не складаюць прамфінпляnaў, або калі і складаюць, дык не даводзяць іх да прадпрыемстваў, да рабочых. Адсюль эразумела, што, калі колектыў ці прадпрыемства не організаваны і не падрыхтаваны да выкананьня задач, якія пастаўлены партыяй і савецкай уладай, такія прадпрыемствы і колектывы будуць плесьціся ў хвасьце.

Тое самае мы маем і ў галіне грамадзкага харчаваньня.

Палепшаньне абслугоўваньня спажыўца застаецца пакуль што бяз зьмен, тут вядзецца справа па „старынцы“. У гэтым напрамку ў бліжэйшы час неабходна дабіцца рашучага пералому. Барацьба за якасьць грамадзкага харчаваньня і добрае абслугоўваньне павінны зрабіцца баявой задачай. Трэба, каб профсаюзныя і коопэрацыйныя організацыі зьвярнулі на гэта асаблівую ўвагу, дапамаглі шырока ўжыць у грамадзкім харчаваньні мэтады соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва.

З гэтай мэтай сэктар грамхарчаваньня Белкоопсаюзу распрацаваў дырэктыўны ліст гаспадарнікам, а таксама форму падліку выкананьня прамфінпляну, праверку соцспаборніцтва ў грамхарчаваньні. Белкоопсаюз павінен будзе ўзяць пад контроль ЦРК і РК з тым, каб пры дапамозе ўдарніцтва і соцспаборніцтва дасягнуць выкананьня прамфінпляну грамадзкага харчаваньня, наладзіць працу рабочых сталовак, палепшыць якасьць і абслугоўваньне ў першую чаргу.

---

Качаноўскі

## За інвэнтар для рабочых сталовак

Рашэньнямі сьнежаньскага Пленуму ЎсеКП(б) і студзеньскага Пленуму КП(б)Б перад спажкоопэрацыяй пастаўлена ва ўвесь рост пытаньне аб павялічэньні ахопу рабочых грамадзкім харчаваньнем і пераводу іх з індывідуальнага на колектыўнае харчаваньне; выкананьне вышэйпаказаных рашэньняў упіраецца ў пытаньне інвэнтару. Ня гледзячы на пастанову Экана БССР ад 18 ліпеня 1930 г., якая абавязвае ВСНГ безадкладна прыступіць да выпуску для грамадзкага харчаваньня ў 1930—31 годзе катлоў на 300.000 руб., хлебарэзак— 200 штук, бульбачыстак—200 шт., ня гледзячы на тое, што мы ў нашых дакладных запісках прасілі ВСНГ аб выкананьні пастановы

Экана, і на тое, што на пашыраным паседжаньні штабу дапамогі грамадзкаму харчаваньню сумесна з брыгадзірамі тав. Васкабойнікаў заявіў, што рабочыя сталовак БССР будуць забясьпечаны гэтым інвэнтаром, справа з інвэнтаром ня зрушылася ўперад ні на ёту. Дадзеныя намі заяўкі Белмэталяаб'яднаньню на катлы, хлебарэзкі, бульбачысткі і г. д. цалкам ня выконваюцца. Прыняты кіраўнікам Белмэталяаб'яднаньня наш заказ на 8800 кухонных пліт зараз па распараджэньню інжынэра т. Сульскага скарочан на 75 проц.

Улічваючы, што такое становішча не дае нам магчымасьці рэалізаваць вышэйпаказаныя дырэктывы і ставіць пад пагрозу выкананьне дырэктывы ЦК КП(б)Б ад 7-I-31 г. аб забесьпячэньні інвэнтаром зачыненых сталовак рабочых Новабуду і аб ахопе грамадзкім харчаваньнем рабочых саўгасаў у час вясеньняй пасеўнай кампаніі, лічу неабходным, каб нашы вышэйшыя партарганізацыі і адпаведныя савецкія арганізацыі зьвярнулі ўвагу на гэта становішча і далі па руках тым, якія перашкаджаюць выконваць пастановы нашых вышэйшых арганізацый.

---

С. Нісэнбаўм

# Тэхніка выпечкі хлеба

Тэхнолёгічны процэс работы ў хлебапякарных прадпрыемствах па БССР павінен быць карэнным чынам зьменены. Сыстэма работы, якая практыкуецца ў нас, па сутнасьці зьяўляецца старой, даўно ўжо пакінутай цэнтральнымі гарадамі Савецкага саюзу, як Масквой, Ленінградам і г. д. У асаблівасьці, на трэці год пяцігодкі, калі соцыялістычнае будаўніцтва ідзе форсаваным тэмпам, мы павінны зьвярнуць сур'ёзную увагу на карэнны пералом работы ў хлебапякарнях.

Нядаўна былі зроблены тры спробныя выпечкі жытняга хлеба безапарным спосабам інструктарамі па хлебапячэньню БКС, інспэктарам ДХІ Грынвальдам, у прысутнасьці майстраў і прадстаўніка вытворчай комісіі, на Менскім хлебазаводзе.

Новы спосаб работы заключаецца ў тым, што цеста выпрацоўваецца не адразу на паўквасах, г. зн. на аднімках, на якіх раней ставіўся квас, а цеста робіцца больш цьвёрдым, таму што яно павінна стаяць да 3 гадзін, дасягнуўшы квасньсці ў 10—11 градусаў. Далей работа ідзе па-ранейшаму.

Які-ж вынік спробнай выпечкі?

| | | |
|---|---|---|
| Вільготнасьць печанага хлеба | 48,5 | проц. |
| Кваснасьць „ „ | 9,5 | градусаў |
| Пульхнасьць „ „ | 48,15 | „ |

Трэба адзначыць, што якасьць хлеба па ўсіх відах, якія зроблены безапарным спосабам, лепшая за якасьць хлеба старой сыстэмы работы. Побач з гэтым, пераходзячы да новай сыстэмы работы, прыкладам на Менскім хлебазаводзе, мы можам дасягнуць экономіі сродкаў да 11.000 рублёў у год. Маем экономію ў людзях, шляхам рацыяналізацыі цестамясільнага аддзелу на 9.000 рубл., электроэнэргіі і амартызацыі—на 2.000 руб.

Яшчэ адно з нямалаважнай вартасьці новага спосабу — экономія часу і экономія ў чанах на 25 проц.- што пры сучасным недахопе ў чанах мае вялікае значэньне. У пераходзе на новы безапарны мэтад работы Менскі хлебазавод павінен стаць застрэльшчыкам, таму што гэты мэтад гарантуе палепшаньне якасьці печанага хлеба, правільную ўстаноўку процэсу ўнутры

прадпрыемства пры вялізнай эканоміі ў сродках да 100.000 рублеў па хлебапякарных прадпрыемствах БССР.

Цяпер некалькі слоў пра дасягненьні, якія мы маем у сапраўднасьці ў некаторых саматужных прадпрыемствах па БССР—гэта пераход на конвэерную сыстэму пры цяжкіх саматужных умовах, як: у аддзяленьні Менскага хлебазаводу, у Полацкай хлебапякарні і ў Віцебскай хлебапякарні № 3.

Побач з гэтым трэба констатаваць, што пераход на конвэерную сыстэму работы па хлебапякарных прадпрыемствах БССР зьяўляецца ня менш важным, чым пераход на безапарны мэтод работы. Конвэерная сыстэма работы дае магчымасьць поўнасьцю ўшчыльніць рабочы дзень у хлебапякарных прадпрыемствах і зьяўляецца дапаможнікам для выкананьня і перавыкананьня прамфінпляну. Напрыклад, аддзяленьне Менскага хлебазаводу перавыканала свой прамфінплян на асобны квартал праз пераход на конвэерную сыстэму, дзякуючы якой колькасьць хлеба ў месяц павялічана на 150.000 клгр., у Полацку—на 28.000 клгр., у Віцебскай пякарні № 3 ушчыльнены рабочы дзень і павялічана колькасьць хлеба ў месяц на 100.000 кгр.

Аб чым гэта гаворыць? Гэта гаворыць аб тым, што рабочыя пякарняў паказалі ў часе месячніку агляду хлебапячэньня прыклад высокай сьвядомасьці, бо пераход да конвэернай сыстэмы ўшчыльняе рабочы дзень, паляпшае якасьць хлеба і зьніжае сабекошт продукцыі.

Трэба адзначыць, што новы спосаб безапарнага мэтоду работы ў прыстасаваньні да нашых умоў робіць палёгку пераходу да конвэернай сыстэмы ў буйных саматужных пякарнях на перыфэрыі БССР.

Трэба памятаць, што хлеб зьяўляецца важнейшым продуктам харчаваньня працоўнага насельніцтва, і загэтым мы павінны прыкласьці ўсе сілы, каб даць смачны, танны хлеб.

# Мобілізацыя сродкаў

Д. Розэнгаўз

## Мобілізацыя сродкаў у спажсыстэме БССР

Грандыёзныя задачы соцыялістычнага будаўніцтва, пастаўленыя партыяй і савецкай уладай, узмоцненыя тэмпы індустрыялізацыі, зразумела, патрабуюць найбольшага сконцэнтраваньня ўсіх рэсурсаў савецкай краіны. На выкананьне гэтых задач павінны быць накіраваны ня толькі сродкі аграмаджанага сэктару, але і сродкі індывідуальнага карыстаньня, у першую чаргу, сродкі коопэраванага насельніцтва.

Уліваючыся ў коопэрацыйны зварот, гэтыя сродкі, акрамя прамой дапамогі гэтаму звароту, выконваюць і агульнадзяржаўную задачу, бяручы з таваразвароту дзяржаўныя сродкі, якія накіроўваюцца на найбольш ударныя вучасткі соцыялістычнага будаўніцтва. Бліжэйшая задача ў гэтым напрамку — гэта поўная замена дзяржаўнага крэдыту сродкамі коопэраваных працоўных мас.

Посьпехі спажсыстэмы БССР у галіне мобілізацыі сродкаў насельніцтва характарызуюцца ростам паявых капіталаў з 5.134 т. руб. на 1-І-29 г. да 22.115 т. руб. на 1-І-31 г., г. зн. павялічэньне амаль у $4^1/_2$ разы за апошнія два гады, пры чым на долю асобнага кварталу 1930 г. прыпадае каля 6.200 т. р, Заданьне па збору паёў на 1931 г. вызначана ў суме 16.200 т. р.

Яшчэ больш спрыяючыя даныя мы маем у прыцягненьні сродкаў насельніцтва ў выглядзе ўкладаў і авансаў. На 1-І-29 г. сыстэма мела такіх сродкаў ў памеры 673 т. р., а на 1-І-31 г.—5.137 т. р., г. зн. павялічэньне больш, чым у $7^1/_2$ разоў. Асноўны від гэтых сродкаў—авансы пад тавары. Гэтыя опэрацыі па сутнасьці яшчэ не разьвіліся, як сталы мэтад працы, у большасьці маюць эпізодычны характар. Перад сыстэмай яшчэ стаіць вялікая задача ўкараненьня практыкі авансавых опэрацый у штодзённую працу організацый спажывецкай коопэрацыі.

Асобна трэба спыніцца на другім відзе гэтых сродкаў—на мэтавых узносах на будаўніцтва. У апошнім годзе, у сувязі з шпаркім тэмпам разьвіцьця ўсіх бакоў дзейнасьці спажыўкоопэрацыі, усё мацней выступае недастатковасьць тэхніка-матар‘яльнай базы сеткі і неабходнасьць яе перабудовы. Гэта, аднак, натыкнулася на немагчымасьць укладаньняў у гэтую справу ўласных сродкаў. Загэтым зусім правільным зьяўляецца прыцягненьне для гэтай мэты сродкаў коопэраванага насельніцтва. Мэтавыя ўзносы на будаўніцтва, як правіла, зьбіраюцца як доўгатэрміновы (на 3-5 гадоў) уклад пайніка ў цьвёрдым—да 30 проц.—памеры да дыфпаю. На 1-І-31 г. па вясковаму сэктару сабрана 1376 т. р., па гарадзкому-ж сэктару гэтая галіна мобілізацыі сродкаў пайнікаў разьвіваецца вельмі слаба: на 1-І-31 г. сабрана толькі 118 т. р., пры чым цікава заўважыць, што такія буйныя ЦРК, як Менскі і Гомельскі, яшчэ і на сёньняшні дзень не аформілі і не приступілі да збору гэтых сродкаў, а Віцебскі пачаў толькі ў сьнежні мінулага году. На разьвіцьцё гэтых опэрацый, якія зьяўляюцца магутнай крыніцай фінансаваньня соцыялі-

стычнай перабудовы матар'яльна-тэхнічнай базы, спажсыстэма павінна зьвярнуць асаблівую ўвагу.

Побач з гэтымі відамі мобілізацыі сродкаў, якія зьяўляюцца непасрэдным удзелам коопэраваных мас у рабоце спажыўкоопэрацыі, існуюць і іншыя шляхі, якія вядуць да ажыцьцяўленьня тэй-жа асноўнай мэты: максымальнага аслабаненьня з тавараздвароту дзяржаўных сродкаў. Гэта—мобілізацыя ўнутраных рэсурсаў самой сыстэмы. Колькасныя паказальнікі гэтай галіны працы ў той-жа час зьяўляюцца і якаснымі паказальнікамі працы сыстэмы. На жаль, пахваліцца посьпехамі ў мобілізацыі ўнутраных рэсурсаў спажсыстэма на сёньньшні дзень ня можа.

Зварот тавараў, хаця за апошні час значна паскорыўся, аднак у зусім недастатковай ступені. Сыстэма яшчэ да гэтага часу не аслабанілася ад залежаў няходкіх і малаходкіх тавараў. Зараз Цэнтросаюз і БКС пайшлі па шляху цьвёрдага лімітаваньня таварных рэштак і дачы пэўных заданьняў па тавараздвароту.

Зусім слаба абстаіць справа з ліквідацыяй і спагнаньнем дэбіторскай завінавачанасьці, у асноўным застарэлай, якая цягнецца па некалькі гадоў.

Кепскае становішча з растратамі, недахопамі звыш устаноўленай нормы і крадзяжамі, крывая якіх ня толькі ня зьніжаецца, а наадварот, паграджаючча расьце ўгару.

Пытаньні патаненьня працы і зьніжэньня адм.-кіраўнічых выдаткаў амаль зусім не стаяць на парадку дня організацый спажыўкоопэрацыі. Гэта, можна сьмела сказаць, зусім непачатая галіна працы.

Нават такая галіна, як маёмасьць, патрабуе ў сучасны момант асаблівай увагі: пераглядц усіх каштоўнасьцяй, рэалізацыя ўсяе непатрэбнай маёмасьці ды інвэнтару павінны таксама аслабаніць значныя сумы, якія застаюцца ў нярухомасьці.

Абвешчаны на люты м-ц месячнік мобілізацыі сродкаў і ўнутраных рэсурсаў мае на мэце прыцягнуць увагу ўсіх коопэрацыйных працаўнікоў да выкананьня гэтых баявых задач, якія паставілі перад коопэрацыяй партыя і савецкая ўлада.

Трэба зараз-жа організаваць брыгады з удзелам шырокіх мас рабочых ,колгасьнікаў, беднякоў і батракоў з тым, каб зараз-жа на мясцох уключыцца ў гэтую працу і дабіцца рашучых вынікаў у выкананьні памянёных задач.

С. Д.

## Умацуем фінансавую гаспадарку коопэрацыі

Студзеньскі пленум ЦК КП(б)Б, адзначыўшы шмат недахопаў у працы спажывецкай коопэрацыі, паставіў перад ёю шэраг адказьнейшых задач, з мэтаю зьнішчэньня гэтых недахопаў, наладжаньня працы, а таксама карэннае перабудовы ўсяе сыстэмы спажывецкай коопэрацыі. Аднэй з гэтых важнейшых і адказьнейшых задач зьяўляецца выкананьне фінансавага пляну, узмацненьне фінансавай гаспадаркі коопэрацыі. Каб з посьпехам выканаць гэтую задачу, спажывецкая коопэрацыя павінна мобілізаваць усе свае сілы на выкананьне і перавыкананьне плянаў тавараздвароту, зьмяншэньне астач, зьмяншэньне накладных выдаткаў, рэалізацыю залежаў і г. д. Коопэрацыя павінна павесьці рашучую барацьбу з растратамі, крадзяжом, са згубамі ў тавараздвароце, якія мелі месца ў працы спажывецкай коопэрацыі.

Да гэтага часу ў гэтай галіне работы заўважаліся індыфэрэнтныя адносіны, чыста фармальны, а

часамі шкодніцкі падыход да гэтае справы. Вельмі шмат ёсьць прыкладаў адрыву ад мас, бескантрольнае працы работнікаў прылаўку, у выніку чаго атрымліваліся буйныя растраты. Той факт, што толькі па двух РСТ. (Боркавіцкім і Расьнянскім) выяўлена растрата на 40 тысяч рублёў, сьведчыць нам аб тым, што такія буйныя растраты маглі мець месца толькі дзякуючы блізарукасьці праўленьня, адсутнасьці сталага контролю, нядбайнасьці і г. д.

Рэўкомісіі ў такіх выпадках або бязьдзейнічалі, або абмяжоўваліся чыста павярхоўнымі праверкамі.

З прычыны ўсіх вышэйзазначаных недахопаў патрэбен карэнны пералом у гэтай рабоце. Мобілізацыя ўнутраных рэсурсаў, рашучае паскораньне тавараздваротаў, барацьба са стратамі ў тавараздвароце, барацьба з растратамі зьяўляюцца баявой задачай спажывецкай коопэрацыі.

Цэнтрасаюз у лютым месяцы абвясьціў месячнік мобілізацыі ўнутраных рэсурсаў, месячнік барацьбы са згубамі і растратамі. Ведаючы важнасьць гэтага мерапрыемства, трэба безадкладна правесьці шырокую растлумачальную работу сярод коопактыву рабочых, колгасьнікаў, пайнікаў, а таксама сярод супрацоўнікаў спажсыстэмы, з мэтай актыўнага ўдзелу іх у правядзеньні гэтага месячніку.

Месячнік мобілізацыі ўнутраных рэсурсаў, барацьбы са згубамі і растратамі, які будзе праводзіцца з 10 лютага па 10 сакавіка, спажыўсыстэма павінна сустрэць падрыхтаванай. Конкрэтна на працягу месячніку стаяць наступныя задачы:

а) выяўленьне і ліквідацыя лішняй маёмасьці;

б) мобілізацыя касавых астач сыстэмы, устанаўленьне цьвёрдага парадку збору выручкі магазынаў і перадачы яе Дзяржбанку;

в) прыняцьце мер да паскораньня тавараздвароту і ліквідацыі таварных залежаў, давядзеньне таварных запасаў да ўстаноўленых нормаў;

г) выяўленьне, расшыфроўка і ліквідацыя дэбіторскіх рахункаў;

д) праверка выкананьня дырэктыў аб зьніжэньні адміністрацыйна-гаспадарчых выдаткаў і скарачэньне іх на 1931 год і першы квартал;

е) організацыя правядзеньня ў жыцьцё дырэктыў аб зьніжэньні матар'яльных згуб: натуральнай страты, браку, псаваньня і г. д.;

ж) мобілізацыя мас на барацьбу з растратамі і крадзяжом.

Ад пасьпяховага вырашэньня гэтых задач спажыўкоопэрацыяй залежыць фінансавае ўзмацненьне гаспадаркі, пасьпяховае выкананьне фінансавага пляну коопэрацыі.

Выходзячы з гэтага, на мясцох неабходна:

а) зараз-жа вылучыць адказную асобу за правядзеньне месячніку па барацьбе са згубамі і растратамі і мобілізацыі ўнутраных рэсурсаў;

б) зараз-жа склікаць сходы коопактыву сумесна з апаратам ЦРК, дзе паставіць даклад аб мэтах гэтага месячніку і распрацаваць конкрэтныя мерапрыемствы па барацьбе са стратамі;

в) популярызаваць задачы месячніку на сходах прадпрыемстваў, організаваць рабочыя брыгады для праверкі працы асобных галін.

Найлепш організаваць брыгады па такому прынцыпу:

а) брыгада для праверкі маёмасьці, з мэтай выяўленьня лішняй маёмасьці;

б) брыгада для праверкі дэбіторской завінавачанасьці;

в) брыгада для праверкі выкананьня дырэктыў па скарачэньню адміністрацыйна - гаспадарчых выдаткаў;

г) брыгада для праверкі складаў і крам, з мэтаю выяўленьня, у якой

ступені выконваюцца дырэктывы аб рэалізацыі тавараў, аб пабудове асортымэнту, што робіцца па зьмяншэньню матар'яльных страт браку, псаваньня і г. д.

Такімі павінны быць конкрэтныя мерапрыемствы па правядзеньню гэтага месячніку. Ні ў якім разе нельга абмяжоўвацца толькі формальнымі адносінамі да гэтае справы—„організавана брыгада, і мая справа скончана". Кожная брыгада сваёй працай непасрэдна, вынікамі яе павінна паказаць на сапраўдны ўдзел у правядзеньні гэтага месячніку, мобілізуючы вакол яго шырокую пролетарскую грамадзкасьць.

Сумесна з профсаюзнымі організацыямі брыгады павінны практыкаваць паказальныя суды над супрацоўнікамі і крамамі, якія зрываюць пляны тавараздвароту, якія індыфэрэнтна адносяцца да страт, псаваньня і г. д. Асабліва важнымі ў гэтым сэнсе павінны зьявіцца паказальныя суды над шкоднікамі і растратчыкамі, на якіх зьвяртаецца асаблівая ўвага ў правядзеньні гэтага месячніку

У час абвешчанага месячніку трэба стварыць рашучы пералом у справе мобілізацыі ўнутраных рэсурсаў, павесьці сыстэматычную барацьбу са стратамі і растратамі, зьнішчыць усе недахопы ў організацыі хуткага тавараздвароту.

Пастаўленыя студзеньскім Пленумам ЦК КП(б)Б задачы перад коопэрацыяй па выкананьню фінансавага пляну, па ўмацаваньню фінансавай гаспадаркі коопэрацыя выканае.

# За бальшавіцкія кадры

А. Смалякоў

## Не ігнараваць пастановы партыі аб падрыхтоўцы кадраў

Рашэньні 16 зьезду партыі аб падрыхтоўцы кадраў яшчэ раз і яшчэ раз абавязваюць нас па-баявому ўзяцца за гэтую важную справу. Кадры для соцыялістычнага будаўніцтва і перабудовы народнай гаспадаркі ва ўсіх яе галінах зьяўляюцца рашаючай задачай. Палепшаньне і перабудова работы спажывецкай коопэрацыі, ліквідацыя яе абломаўскіх тэмпаў работы, магчымы толькі тады, калі ў яе будуць уліты сапраўды падрыхтаваныя кадры, якія змогуць па-баявому, у адпаведнасьці з рашэньнямі партыі, у асобе яе 16 зьезду, наладзіць работу коопэрацыі.

Аддзел кадраў Белкоопсаюзу ўпяршыню ў 1930 годзе прыступіў да шырокага разгортваньня сеткі навучальных устаноў і курсаў як па падрыхтоўцы, так і па перападрыхтоўцы работнікаў сеткі спажывецкай коопэрацыі.

Складзеныя контрольныя лічбы па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы паказаных кадраў як на асобны квартал 1930 году, так і на ўвесь 1931 год прадугледжваюць падрыхтоўку для гарадзкой сеткі ЦРК па ўсіх відах работы 7.469 чалавек, для пэрыфэрыі райспажтаварыстваў—5875 чалавек.

Асобнае месца ў галіне падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў займаюць прыгарадныя гаспадаркі спажывецкай коопэрацыі, як база рабочага забесьпячэньня, у выглядзе іх гарадоў, малочных фэрмаў, сьвінаадкормачных пунктаў ды інш. І ў гэтай галіне прадугледжана падрыхтаваць і перападрыхтаваць 2647 чал., галоўным чынам, гароднікаў, скотнікаў, жывёлаводаў, сьвінаводаў, трактарыстаў як старэйшага, так і малодшага пэрсоналу.

Нездавальняючы стан прыгарадных гаспадарак, слабасьць забесьпячэньня іх адпаведнымі кадрамі і тыя недахопы і прарывы, якія наглядаюцца ў гэтай новай для коопэрацыі справе, ставяць, як ніколі, пытаньне аб яшчэ большым разгортваньні і ўзмацненьні гэтых гаспадарак, забясьпечыўшы іх адпаведнымі кадрамі работнікаў, якія здольны на справе перабудаваць іх работу ў адпаведнасьці з задачамі поўнага забесьпячэньня рабочага снабжэньня і выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады і гэтым яшчэ шпарчэй пасунуць наперад справу індустрыялізацыі краіны, як залог пасьпяховага соцыялістычнага будаўніцтва.

Такой-жа неадрыўнай базай, якая забясьпечвае выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну, зьяўляецца грамадзкае харчаваньне, вырасшае за апошні час амаль у пяць разоў. У гэтай галіне патрэбны максымум увагі да падрыхтоўкі кадраў для забесьпячэньня бесьперабойнасьці работы, і ў гэтай частцы мяркуецца таксама падрыхтаваць і перападрыхтаваць 4.115 чал.

Для выкананьня гэтага сэктарам кадраў Белкоопсаюзу за апошні час разгорнута значная сетка школ, курсаў і другіх форм падрыхтоўкі

адпаведных кадраў, якія ўжо прыступілі да работы. Аднак замацаваньне гэтых посьпехаў затрымліваецца тымі арганізацыямі нізавой коопэрацыйнай сеткі, якія злачынна адносяцца да ўкомплектаваньня іх адпаведнымі людзьмі. Рад фактаў бяздушных, няўважлівых, казённых адносін да гэтай важнай справы шэрагу работнікаў ЦРК і РСТ ставяць пад пагрозу зрыву і фактычна зрываюць гэтую важную работу. Каб ня быць бяэгрунтоўнымі, прывядзем факты.

Для забесьпячэньня нормальнага разгортваньня вясеньніх работ прыгарадных гаспадарак сэктарам кадраў Белкоопсаюзу вызначана падрыхтаваць праз адчыненьне адпаведных курсаў у сьнежні месяцы 1930 г. 2600 кваліфікаваных рабочых для прыгарадных гаспадарак. Аднак, прысылка анкет і адбор кандыдатур з боку шэрагу паказаных работнікаў ЦРК і РСТ ідзе вельмі марудна, а некаторыя з іх зусім адмаўляюцца ад прысылкі людзей, матывуючы адсутнасьцю іх для пасылкі на курсы.

Напрыклад, Аршанскі ЦРК у сваім адносьніку піша: „На курсы паслаць нікога ня можам з-за адсутнасьці людзей. Просім падрыхтаваць для нас гароднікаў, неабходных для нашай гаспадаркі“.

Шклоўскае РСТ піша: „на курсы паслаць ня можам з-за адсутнасьці адпаведных кадраў“.

Прапойскае РСТ піша, што паслаць таксама ня можа па тых-жа прычынах.

Старобінскае РСТ таксама паведамляе, што „на курсы паслаць ня можам з-за адсутнасьці адпаведных кандыдатур“.

Больш выдатнымі зрыўшчыкамі справы падрыхтоўкі кадраў і пабіўшымі рэкорд у гэтым зьяўляюцца: Чачэвіцкае РСТ, Дубровенскае РСТ, якія ўжо другі раз паведамляюць сэктар кадраў Белкоопсаюзу, што на курсы паслаць ня могуць з-за адсутнасьці людзей, знаёмых з гэтай галінай. Прыкладаў ёсьць шмат, але немагчыма прывесьці тут, бо яны зоймуць шмат месца. Аднак, і гэтых фактаў досыць для таго, каб з усёй катэгорычнасьцю заявіць, што зрыўшчыкам справы падрыхтоўкі кадраў трэба даць па руках. Адказ: „няма людзей“ для вучобы на 3-4 месяцы, улічваючы асеньнязімовы пэрыод для прыгарадных гаспадарак, нельга іначай разглядаць, як поўнае ігнараваньне пастановы 16 зьезду партыі і шэрагу вышэйшых органаў і недаацэнку значэньня гэтай важнай справы.

Дзе коопэрацыйны актыў? Дзе рабочыя прыгарадных гаспадарак? Дзе батрацка-бядняцкі актыў? На гэтыя пытаньні няхай адкажуць зрыўшчыкі падрыхтоўкі кадраў.

Цяжка даць веры таму, каб у нас, пры нашай векавой адсталасьці, якая зьяўляецца спадчынай царызму, ня было людзей, якія жадаюць вучыцца, людзей, у якіх так многа схаваных і зараз замазваемых зрыўшчыкамі талентаў і здольнасьцяй. Забываюцца словы, сказаныя У. І. Леніным яшчэ ў 1905 годзе: „У нас ёсьць нявымернае мноства талентаў, не заўважаных намі, асабліва сярод моладзі“.

Як кваліфікаваць паказаныя факты некаторых коопэрацый у якіх ніякіх матываў няма, ды і ня можа быць. Іх нельга інакш кваліфікаваць, як правы опортунізм на практыцы. Адмаўленьне ад падрыхтоўкі кадраў ёсьць адмаўленьне ад выкананьня прамфінпляну, бо адно з адным, асабліва зараз, цесна зьвязана. Гэтыя адносіны зьяўляюцца тым больш недапушчальнымі і шкоднымі, што аднэй рукою людзі пішуць—„няма людзей для падрыхтоўкі“, а другою просяць падрыхтаваць ім работнікаў па шэрагу кваліфікацый, якія падрыхтоўваюцца намі на гэтых-жа курсах. На простай мове гэта называецца адмаўленьнем ад падрыхтоўкі кадраў.

Калі ўлічыць, што рад курсаў, якія зрываюцца з-за несваячасовага ўкомплектаваньня іх прыносяць

дзяржаве страты, дык будзе зразумела, што гэткія нядбайныя адносіны некаторых работнікаў да гэтай важнай справы толькі шкодзяць ёй.

Пераканаўчым фактам, які даводзіць нясур'ёзнасьць падыходу гэтых работнікаў, зьяўляецца тое, што абвешчаны набор на паказаныя курсы праз газэту даў аддзелу кадраў сотні заяў з боку батракоў, колгасьнікаў, беднякоў і рабочых гаспадарак, якія жадаюць вучыцца на паказаных курсах.

Неабходна ў гэтай частцы аддзелу кадраў Белкоопсаюзу прыняць больш жорсткія меры да тых, хто зрывае гэтую справу. Калі дагэтуль аддзел кадраў Белкоопсаюзу не рэагаваў на такія абураючыя адносіны некаторых работнікаў ЦРК і РСТ, а абмежаваўся толькі неаднакротнымі напамінкамі гэтым організацыям шляхам пасыланьня лістоў, адносін, дырэктыў ды *інш., аж* да асабістых распараджэньняў старшыням праўленьняў паказаных організацый за подпісам старшыні праўленьня Белкоопсаюзу тав. Хаскіна, (гэтыя ўказаньні і лісты часта нават ня чытаюцца работнікамі), дык у далейшым меры рэагаваньня павінны быць крута зьменены аж да прыцягненьня да адказнасьці асоб, якія ігноруюць пастановы партыі аб падрыхтоўцы кадраў.

---

Мібор

# Яшчэ раз пра кадры

Студзеньскі пленум ЦК КП(б)Б у сваёй рэзолюцыі па дакладу БКС асобным пунктам адзначыў ня зусім добрае становішча апарату спажывецкай коопэрацыі і неабходнасьць усямернага ўмацаваньня яго новымі пролетарскімі кадрамі.

Зразумела, што нашая сыстэма, пры дапамозе партыйнай, профэсіянальнай і савецкай грамадзкасьці, ажыцьцёвіць усе пастановы пленуму, пераключыць сябе на баявыя бальшавіцкія тэмпы работы, а таксама справіцца з задачай чысткі апарату ад чужых, шкодных і опортуністычных элемэнтаў і створыць сабе сапраўдныя пролетарскія кадры.

Аднак будзе ня лішнім яшчэ раз спыніцца на хваравітых момантах у пытаньні кадраў,

Перш за ўсё заўважаюцца індыфэрэнтныя адносіны да пытаньня падрыхтоўкі патрэбных кадраў. Некаторыя ЦРК і РайСТ шлюць бязьлікія патрабаваньні Белкоопсаюзу на работнікаў, думаючы напэўна, што ў апошняга яны ляжаць на паліцах складаў. У гэты-ж самы час ня выконваецца разьвёрстка на пасылку кандыдатаў на тыя ці іншыя курсы, якія падрыхтоўваюць патрэбных работнікаў.

Прапановы БКС аб організацыі тых ці іншых курсаў сустракаюцца з большым „жахам“, чым павялічаная разьвёрстка па загатоўках, ці таварных зваротах.

І калі некаторыя ЦРК і організавалі вучэбныя курсы па падрыхтоўцы работнікаў, дык яны мадзеюць, бо праўленьне не зацікаўлена гэтай справай так, як яно зацікаўлена забесьпячэньнем ці паянакапленьнем. Да гэтага часу ня ўсе ЦРК, асабліва тыя, якім патрэбны працаўнікі, не адважваюцца на „вялікія выдаткі“ і не жадаюць мець працаўніка па гэтай важнай справе. Гомельскі і Менскі цэрабкоопы лічаць для сябе магчымым амаль ня кожны месяц зьнімаць інструктара па кадрах, каб „умацаваць другія вучасткі работы“. „Нейкі нэпманскі дух“ як нельга лепш падыходзіць для характарыстыкі адносін многіх нашых РайСТ і ЦРК да гэтага важнага пытаньня.

Наглядаюцца наплявацельскія адносіны з боку некаторых ЦРК і РайСТ да пытаньня вучоту кадраў.

Калі праўленьне БКС змагло дабіцца сваячасовай прысылкі зьвестак аб загатоўцы касьцей, каменьняў і зборы жалезнага лому (мы не адмаўляем важнасьці гэтай работы), дык зьвестак аб вучоце работнікаў (номэнклятурным вучоце), аб вылучэнцах, аб чыстцы апарату і да гэтага падобных „пусьтяках“ многімі нашымі організацыямі і да гэтага часу не прысылаецца, ня гледзячы на тое, што гэтыя зьвесткі ўжо месяцы тры запрашаюцца.

Характэрна адзначыць і тое, што Белкоопсаюз, распрацоўваючы схэму штатаў організаваных райсаюзаў, ня ўключыў адзінку па кадрах, думаючы, што гэтую работу можна „сумясьціць“ у адным інструктары па оргмасавай, культасьветнай і бытавой рабоце.

Нарэшце трэба яшчэ сказаць некалькі слоў пра няправільную тэндэнцыю асобных работнікаў БКС у пытаньні кіраўніцтва кадрамі, г. з. імкненьне ператварыць сэктар кадраў у Бюро экономіі працы, каб гэтым самым адсунуць на задні плян баявую справу падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў.

У гэтым сэнсе павінен быць зроблен хуткі і рашучы пералом ва ўсіх зьвеньнях пытаньня кадраў. Белкоопсаюз у сябе, а за ім і ўся сыстэма павінны паставіць гэтую працу на адзін узровень з другімі важнымі гаспадарчымі і політычнымі задачамі. Толькі тады рашэньні студзеньскага пленуму ЦК КП(б)Б у галіне падрыхтоўкі кадраў будуць цалкам ажыцьцёўлены.

# Копоэрацыйная трыбуна

Брыгадзіры

## Белрыба на мялі

Ціха, спакойна плыла па цячэньню Белрыба. Адозвы партыі і ўраду аб увядзеньні ўдарніцтва ў выкананьні прамфінпляну праплывалі каля яе незаўважанымі.

Сыстэматычнае выміраньне пасадачнага матэрыялу і ў сувязі з гэтым зрыў рабочага забесьпячэньня ўвайшлі ў плоць і кроў як кіраўніцтва, так і апарату Белрыбы. Стаўка на самацёк, на выкананьне плянаў франко-дно была звычайным мэтодам кіраўніцтва.

Заметкі ў друку, якія нярэдка зьмяшчаліся на старонках цэнтральных газэт аб прарывах у аднэй з важнейшых крыніц рабочага забесьпячэньня, прымаліся Белрыбаю як нешта дакучлівае, як муха „цэ-цэ", якая не дае чалавеку спакойна адпачыць.

Кіраўнікі Белрыбы на ўсялякіх адказных пасяджэньнях заяўлялі, што ў Белрыбе ўсё добра, што плян будзе выкананы і перавыкананы, але словы засталіся словамі; тыя прарывы, якія наглядаліся ў выкананьні прамфінпляну на 80 проц., прымусілі контрольны орган паставіць пытаньне аб чыстцы апарату Белрыбы ў першую чаргу.

Цяжка было ўзварушыць грамадзкасьць Белрыбы для выяўленьня ўсіх недахопаў у працы. Гэтаму ў значнай меры садзейнічала выступленьне дырэкцыі на першым сходзе па чыстцы, дзе ўсё прадстаўлялася ў самых прыемных фарбах, об'ектыўнымі прычынамі.

На выступленьне супрацоўнікаў Белрыбы, а таксама супрацоўнікаў іншых організацый дырэкцыя адказвала рэплікамі: „няпраўда, а ў вас як справы, а вы як там працуеце", што об'ектыўна заціскала самакрытыку і садзейнічала таму, што значная частка супрацоўнікаў старалася быць у баку, не выяўляць тормазаў у працы. З асаблівою яскравасьцю, як факт заціскання самакрытыкі, выявілася выступленьне загадчыка кадраў Белрыбы, члена КП(б)Б, старшыні мясцкому т. Фэльдмана на адкрытым партсходзе, дзе ён абрушыўся на выступаючых з дзелавою крытыкаю таварышоў са словамі:

— Дарэмна вы малюеце справу Белрыбы чорнымі фарбамі, недахопы ёсьць і будуць, выступаюць пакрыўджаныя дырэкцыяю...

Нават дагаварыўся да таго, што аднаго супрацоўніка назваў падхалімам; на жаль, на сходзе ніводзін адказны партработнік гэтую опортуністычную вылазку ня выкрыў, і толькі пасьля ўмяшаньня старшыні цэнтральнай комісіі па чыстцы т. Кофмана, які зацікавіўся гэтаю справаю, ячэйкаю былі прыняты меры.

Акрамя таго, выяўлены яшчэ наступныя факты: адзін з супрацоўнікаў апарату напісаў наконт выступленьня т. Фэльдмана заметку ў насьценгазэце, дзе патрабаваў прыцягненьня заціскаючага самакрытыку да адказнасьці, і вось, старшыня рэдколегіі, гэты-ж Фэльдман, якога заметка „пакрыўдзіла", парашыў склікаць тэрміновую нараду рэдколегіі, дзе з абурэньнем паставіў пытаньне наконт супрацоўніка, які асьмеліўся на яго напісаць. Заява „здагадлівага" рэдактара насьценгазэты прымушала членаў рэдколегіі згадзіцца, але гэтай комэдыі наступіў канец, які будзе ўрокам для тых, якія думаюць мэтодамі Фэльдмана заціскаць самакрытыку.

Бюро ячэйкі КП(б)Б вынесла цьвёрдую бальшавіцкую пастанову, каб у апараце Белрыбы больш не здараліся падобныя опортуністыч-

ныя вылазкі, аслабаніла Фэльдмана ад абавязкаў старшыні мясцкому, рэдактара насьценгазэты і вывела яго са складу бюро. Будзем спадзявацца, што гэта пасадзейнічае разгортваньню бальшавіцкай самакрытыкі ў апараце Белрыбы, і лічым неабходным, каб комісія па чыстцы зацікавілася становішчам скарыстаньня спэцыялістаў-рыбаводаў, асабліва маладых, якія скончылі школы і тэхнікумы, і замест набыцьця звычак і практыкі працы, кожныя два месяцы перакідваюцца на новую працу.

На гэтую галіну працы Белрыбе трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу.

Падрыхтоўка кваліфікаваных кадраў рыбаводаў павінна стаць чарговай задачай Белрыбы.

**Наглядаючы**

## Заслаўская сталоўка

Калі зойдзеш у Заслаўскую сталоўку, каб папіць гарбаты або паабедаць, то, узяўшы талёны, прыходзіцца сядзець некалькі гадзін, пакуль афіцыянтка прыдзе і забярэ талёны ды падасьць абед ці гарбату.

Залежыць гэта ўсё ад афіцыянтак, таму што ў іх надта марудна ідзе праца і таму, што ў афіцыянтак ёсьць улюбенчыкі, якія, калі ні прыдуць, зараз-жа атрымоўваюць абед, ня гледзячы на тое, што некаторыя сядзяць ужо па некалькі гадзін. Трэцяя віна афіцыянтак тая, што кожны з прышоўшых у сталоўку стараецца сесьці на тым стале, які стаіць каля ўваходу афіцыянтак з кухні ў сталоўку, і афіцыянтка, ўвайшоўшы ў сталоўку, падае на першы стол, ня ўлічваючы таго, што наведвальнікі ўжо зьмяніліся.

За буфэтам кроюць хлеб на вока, з гэтай прычыны адна пайка бывае большая, а другая на палову меншая, цана-ж для ўсіх аднолькавая.

Трэба загадчыку сталоўкі зьвярнуць на гэта належную ўвагу і зьнішчыць усе недахопы.

**Яз. Клыгун**

## Адсутнічае культурна-выхаваўчая праца

(*Пухавіцкі раён*)

Таўкачэвіцкае аддзяленьне Шацкай коопэрацыі зусім забываецца на культурна-выхаваўчую працу. Пры аддзяленьні няма нават коопэрацыйнага кутка, дзе-б можна было селяніну ў вольны час прачытаць кніжку ці газэту.

Кіно-перасоўкі практыкуюцца рэдка, у 7-8 месяцаў раз. Зусім не вядзецца работа па растлумачэньню ролі коопэрацыі ў соцыялістычным будаўніцтве, а таксама аб прычынах недахопу тавараў ды інш.

З гэтай прычыны слабая зацікаўленасьць сялян у працы коопэрацыі і неразуменьне пастаўленых перад ёю задач.

**Вока**

## Сталоўка ў антысанітарных умовах

(*Менск*)

У саўгасе імя Лекерта (Менск) у 1930 годзе ўвясну адчынілася сталоўка для рабочых саўгасу, але гэтая сталоўка знаходзіцца ў антысанітарных умовах. У сталоўцы брудна, не хапае сталоў, лавак, якіх усяго ёсьць 3. Харчуецца ў сталоўцы 150 рабочых. Гатаваньне абедаў вытвараецца негігіенічна. Над катламі вісяць мяшкі, трапкі, ніхто на гэта не зьвяртае ўвагі. Санкомісія сьпіць. За шэсьць месяцаў у сталоўцы ня было зроблена ніводнага агляду. Трэба аздаравіць працу сталоўкі саўгасу імя Лекерта.

Комсамолец

## Самазабесьпячэньне

У Ленінскім спажывецкім таварыстве Церахоўскага раёну ёсьць шмат непарадкаў, якія падрываюць працу кооперацыі. Ёсьць абураючыя факты самазабесьпячэньня. Бухгальтар Ленінскага спажывецкага таварыства адчувае сябе гаспадаром крамы і бярэ дэфіцытныя тавары па свайму погляду. Акрамя таго, займаецца эксплёатацыяй. У сталоўцы працуе рабочы вадавоз, якога бухгальтар бярэ да сябе на кватэру сячы дровы і паліць печы пад пагрозай звальненьня з працы.

Крамніца Мятліцкая бярэ тавары і вязе ў Гомель, дзе спэкулюе імі ў контакце з бухгальтарам. Гэтая спэкуляцыя выяўлена сьледчымі органамі, ісправа перадана ў міліцыю якая пакуль што нічога ня робіць.

Бухгальтар Лапітаў падпарадкаваў сабе праўленьне, звальняе і прызначае рабочых па свайму погляду. Сабе за 13 выходных дзён ён выпісаў 180 руб. без узгадненьня гэтага з мясцкомам. Крыху пазьней выявілася, што гэта не адпавядала сапраўднасьці, і мясцком пастанавіў даць суровую вымову бухгальтару Лапітаву.

Такія факты сыгналізуюць аб шкодніцтве, а таму належным органам трэба прыняць адпаведныя захады для зьнішчэньня іх у Ленінскім спажывецкім таварыстве.

Авадзень

## Сваяцтва заядае

(*Глускі раён, Макавіцкая спажывецкая коопэрацыя*)

Дэфіцытныя тавары, якія атрымлівае Макавіцкая крама, разьмяркоўваюцца коопэратарам паміж сваякамі і сваімі прыхільнікамі. Былі факты, калі коопэратар Кабанаў хаваў дэфіцытныя тавары пад стойкай ад пайнікаў і адпускаў іх толькі для сваіх прыхільнікаў ды сваякоў. Так было з разьмеркаваньнем паліто, матэрыі і цукру, якога некаторыя асобы набіралі да $1^1/_2$ пудоў. Пайнікі гэтым надзвычайна абураны.

Тав. Кабанаву ў далейшым трэба пазбавіцца ад такое якасьці працы, пазбавіцца ад прыхільнікаў і сваякоў, якіх ён так глыбока паважае.

Селькор Мік.

## Дайце бронь

(*Пухавіцкі раён*)

У Глускай краме № 26 праца наладжана слаба. Пухавіцкае райспажывецкае таварыства не дае для крамы бронь-падростка, а толькі ганяе коопэратара. Аднаму коопэратару бяз броні дужа цяжка разгарнуць працу. Сяляне прыносяць лён, няма каму прымаць яго, бо аднаму крамніку цяжка ўправіцца. Трэба адпусьціць газы, адважыць цукру і г. д. Сялянам даводзіцца чакаць да вечара, ад гэтага зрываецца нарыхтоўка лёну. Трэба Пухавіцкаму райспажывецкаму таварыству даць Глускай краме бронь-падростка.

А. Шарапаў

## Бюрократызм у Шклоўскай краме

*(в. Шклова)*

У Шклоўскай краме Глускага спажывецкага таварыства працуе Вэйс Пятро, які з беднатою не жадае нават гаварыць. На запытаньні беднаты, якія тавары прышлі ў краму, Вэйс адказвае: „пабачыш, калі дойдзе твая чарга“. Да бедняка чарга рэдка даходзіць, бо заможнікі заступаюць прылавак і ласкава забіраюць усё, што ім трэба. Вэйс нават не запісвае ў кніжку поўны набор, каб захаваць свае злачынства.

На гэта былі скаргі, на сходах беднаты запісвалі ў пратаколы, але ніхто не зьвяртае ніякай увагі. Вэйс Пятро працягвае сваю работу, п'янствуе з заможнікамі і г. д.

Трэба на гэта зьвярнуць належную ўвагу, каб у забесьпячэньні тав. Вэйс вытрымліваў клясавую лінію.

---

Брыгадзір „Белвёскі“ В. Пархімовіч

## Зьмяніць коопэратара

У вёсцы Крываносы (Старадароскага раёну) ёсьць аддзяленьне коопэрацыі Старадароскага спажывецкага таварыства. Коопэратар Чарнушоў вельмі нядбайна ставіцца да сваіх абавязкаў. За дзень больш не адпускае, як 15-20 пайнікаў. Некаторыя пайнікі, якія прыходзяць за 2 вярсты, вымушаны па некалькі дзён дарэмна хадзіць у краму. Калі ў таго ці іншага селяніна-бедняка ці серадняка хоць і поўны пай, Чарнушоў усёроўна кажа: „пакладзеш пяцёрку на пай, дык дам краму“... Беднякі застаюцца без тавараў, а заможнікі дакладаюць па пяцёрцы на пай і бяруць крам.

Былі выпадкі, калі селянін яшчэ не паклаў зьверх паю пяцёрку, а Чарнушоў паказвае лепшы крам, а калі возьме ад пайніка грошы, дык дае па свайму пагляду кавалачак паркалю ці зусім другі крам, якога не паказваў пайніку.

Каб палепшыць працу аддзяленьня, трэба такога „коопэратара“ звольніць.

---

Ліквідатар

## Вон такіх коопэратараў

*(Самахвалавіцкі раён, вёска Азярычына)*

У Азярычынскай коопэрацыі працуе коопэратар Дзянісевіч Барыс, які зусім не зацікаўлены працай коопэрацыі, а толькі падрывае яе. Былі факты, калі сяляне прыносілі лён для здачы коопэрацыі, а т. Дзянісевіч не хацеў яго прымаць, спасылаючыся на сваю перагружанасьць, а больш за ўсё на абедны перапынак.

Сялянка, якая прынесла лён, прымушана была выслухоўваць такія словы ад Дзянісевіча: „хай вы пагарыце з вашым лёнам“, „пачакаеце з лёнам“ і г. д. Былі факты, калі т. Дзянісевіч браў сабе па 8 васьмушак махоркі, якая прызначалася брыгадзірам.

Такіх коопэратараў трэба гнаць вон.

---

Сымон Ліса

## Трэба падцягнуцца

(*Чавускі раён*)

Радамлянскае аддзяленьне Чавускага спажывецкага таварыства на працягу ўсяго мінулага году не правяло ніводнага сходу сярод сялянства, дзе-б растлумачыла ролю коопэрацыі ў соцыялістычным будаўніцтве.

Не вядзецца ніякай працы па ўцягненьню пайнікаў-сялян у коопэрацыю.

Такая праца нікуды ня варта. Радамлянскаму аддзяленьню трэба падцягнуцца.

---

Калючка

## Зьніклі паі

(*Вушацкі раён*)

У Вяліка-Далецкім крэдытным таварыстве праца ідзе вельмі слаба. Растрата на растраце. Рэвізійная комісія несваячасова правярала працу таварыства. Урэшце атрымалася, што зьніклі сялянскія паі. Пасьля ліквідацыі т-ва і організацыі першапачатковага т-ва не засталося ніводнага паю. Хто вінаваты, невядома, але вінаватых трэба знайсьці і прыцягнуць да адказнасьці.

---

Сымон Ракіта

## На хвалях самацёку

(*Бярэзінскі раён*)

Высокагорская коопэрацыйная крама ня справілася з задачамі сёньняшняга дню. Сходы пайнікаў не адбываліся, адсутнічаў грамадзкі контроль. Дзякуючы гэтаму на справаздачным сходзе праўленьня крамы ад 7 сьнежня быў выкрыты шэраг злачынных дзеяньняў з боку заг. крамы т. Якімовіча. Папершае, тое, што Якімовіч не прыслухоўваўся да голасу мас, г. зн. не клапаціўся аб забесьпячэньні пайнікаў прадметамі шырокага спажываньня (газай, лыкам і г. д.). Былі выпадкі, што на пытаньне пайніка, чаму не даюць мануфактуры ды іншых дэфіцытных тавараў, Якімовіч груба, голасам старога чыноўніка, аўтоматычна адказваў: „нет распоряжения“ і... кропка. Бюрократычны адказ „савецкага“ працаўніка граў на руку нашым клясавым ворагам, кулаком, якія тлумачылі нашы гаспадарчыя цяжкасьці зьнішчэньнем прыватнага гандлю ды іншым. Заг. крамы прадаваў сапсуты цукар, на які быў складзены акт аб няпрыгоднасьці яго для ўжываньня. Хавалася мануфактура пад прылавак для нейкіх сакрэтных патрэб. Крамкомісія абмяжоўвалася складаньнем акту і толькі. Ніякіх практычных вынікаў не дабівалася.

Ня прымала крама баявога ўдзелу і ў нарыхтоўках. Коопэрацыйная крама ня выканала свайго абавязку ў галіне ўсеагульнага навучаньня. Заг. крамы ня імкнуўся забясьпечыць школы неабходнымі пісьмовымі прыладамі, адзеньнем, абуткам. У той час, як батрацка-бядняцкая частка насельніцтва адчувае вострую патрэбу ў абутку, коопэрацыйная крама не паклапацілася задаволіць яго нават лыкам, яго чакаюць і цяпер. З прычыны гэтага частка вучняў ня можа наведваць школу.

Дрэнна абстаіць справа і з забесьпячэньнем настаўніцтва. Ня гледзячы на шэраг дырэктыў цэнтральных органаў, выкананьне апошніх праходзіць недапушчальна марудна.

У далейшым працу крамы трэба аздаравіць і выкараніць опортуністычны самацёк.

# Офіцыйны аддзел

## Аб рабоце спажывецкай коопэрацыі БССР

*(Пастанова пленуму ЦК КП(б)Б па дакладу тав. Хаскіна)*

1. Заслухаўшы справаздачны даклад Белкоопсаюзу аб дзейнасьці сыстэмы спажыўкоопэрацыі, пленум ЦК КП(б)Б адзначае наяўнасьць некаторых дасягненьняў у працы спажывецкай коопэрацыі, рост коопэраваньня працоўных мас гораду і вёскі з 635.000 на 1/X 1928 г. да 1.500.000 на 1/I 1931 г.; рост таваразваротаў з 145 млн. на 1/X 1928 г. на 323 млн. на 1/X 1930 г.; рост паявых капіталаў з 4.150 тыс. руб. на 1/X 1928 г. да 22 млн. руб. на 1/I 1931 г.; рост гандлёвай сеткі з 2250 гандлёвых адзінак на 1/X 1928г. да 5.024 адзінак на 1/I 1931 г., а таксама павялічэньне хлебапячэньня, грамадзкага харчаваньня і арганізацыі прыгарадных гаспадарак па рабочай коопэрацыі.

Разам з гэтым пленум адзначае наяўнасьць у рабоце ўсяе сыстэмы спажывецкай коопэрацыі БССР, раду буйнейшых недахопаў і прарываў; асноўныя з іх: недапушчальна марудная перабудова ўсяе работы сыстэмы ў адпаведнасьці з задачамі, якія высунуты рэконструкцыйным пэрыодам. Сыстэма ня здолела забясьпечыць сваячасовага і поўнага абслугоўваньня рабочых мас, колгасьнікаў, батрацка-бядняцкіх і серадняцкіх мас вёскі, выявіла няўменьне выразна, на клясавай падставе, разьмяркоўваць таварныя фонды; у выніку — першачарговасьць забесьпячэньня рабочых вядучых галін прамысловых парадоў і соцыялістычнага сэктару вёскі застаецца нявыкананай, наяўнасьць затаваранасьці ў адных раёнах і адсутнасьць тавараў у іншых.

У працы раду арганізацый і асобных зьвеньняў апарату БКС маецца наяўнасьць нэпманскага духу, а таксама опортунізм на практыцы, стаўка на самацёк, бюрократызм, адарванасьць сыстэмы ад мас, засьмечанасьць апарату варожымі і шкодніцкімі элемэнтамі, недысцыплінаванасьць сыстэмы, зусім нездавальняючае становішча грамадзкага харчаваньня і недапушчальна слабы тэмп разгортваньня прыгарадных гаспадарак.

Пленум прызнае працу спажывецкай коопэрацыі БССР нездавальняючай, і, улічваючы выключна важнае палітычнае значэньне, якое набывае на даным этапе работа спажывецкай коопэрацыі і выходзячы з пастаноў і ацэнкі сьнежаньскага аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б), пастанаўляе:

1. Прызнаючы, што сучаснае становішча нізавой сеткі спажывецкай коопэрацыі ў вёсцы не забясьпечвае актыўнага ўдзелу мас у кіраўніцве і контролі над працай коопэрацыі, пленум ЦК КП(б)Б абавязвае Белкоопсаюз і ўсю сыстэму спажывецкай коопэрацыі безадкладна прыступіць і не пазьней як на працягу паўтарамесячнага тэрміну скончыць рэорганізацыю нізавой сеткі на вёсцы. Пры рэорганізацыі выходзіць з наступных прынцыпаў:

а) аднаўленьня на вёсцы выбарных коопэратываў („СельСТ“) у межах сельсаветаў з колькасьцю двароў ня менш 600, а там, дзе колькасьць двароў менш,— адно „СельСТ“ на два сельсаветы, пры

чым, пры выдзяленьні „СельСТ“ з „РайСТ“ у раённых цэнтрах, калі яны знаходзяцца ў гарадзкіх і местачковых населеных пунктах, арганізаваць гарадзкія спажывецкія таварыствы (ГарСТ);

б) устанаўленьня большай сувязі спажывецкай коопэрацыі з разьвіцьцём колгаснага руху і будаўніцтва саўгасаў і

в) забесьпячэньня за колгасамі кіруючай ролі ў рабоце сельскай спажывецкай коопэрацыі.

2. Пленум ЦК лічыць таксама неабходнай організацыю ў буйных саўгасах і прамысловых прадпрыемствах, якія знаходзяцца на вёсцы, з колькасьцю рабочых звыш 250 чал. самастойных рабочых спажывецкіх таварыстваў (саўгас-рабкоопы, як правіла, закрытага тыпу). У саўгасах і прамысловых прадпрыемствах з меншай колькасьцю рабочых організаваць закрытыя разьмеркавальнікі.

3. Для аб‘яднаньня работы вясковых коопэратываў, „СельСТ“, рабкоопаў і „ГарСТ“ пленум лічыць неабходнай організацыю ў межах раёну раённых саюзаў спажывецкіх таварыстваў (райспажсаюзы), у кола абавязкаў якіх павінны ўваходзіць: організацыя адзінай фінансава-гаспадарчай працы сыстэмы раёну, кіраўніцтва ўсёй плянавай работы сеткі, аб‘яднаньне ўсяе закупачнай дзейнасьці, організацыя таварапрасоўваньня, кіраўніцтва масавай культасьветнай і бытавой работай сеткі.

Абавязаць праўленьне Белкоопсаюзу ў двухдэкадны тэрмін распрацаваць палажэньне і статут нанова арганізуемых самастойных коопэратываў на вёсцы.

Пленум ЦК абавязвае ўсе партыйныя, профэсіянальныя і комсамольскія організацыі зьвярнуць выключную ўвагу на ўсю работу па рэорганізацыі сеткі на вёсцы, яе ўзмацненьне, узяўшы пад непасрэдны нагляд усю работу, якая зьвязана з правядзеньнем гэтай рэорганізацыі, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на забесьпячэньне кіруючых выбарчых пасад „СельСТ“, рабкоопаў, „ГарСТ“ і г. д. лепшымі колгасьнікамі, батракамі, рабочымі саўгасаў і прамысловых прадпрыемстваў.

4. Прызнаючы, што разгорнутая ў апошні час работа па організацыі сеткі закрытых разьмеркавальнікаў па фабрыках і заводах, як новая, але ўжо апраўдаўшая сябе організацыйная форма клясавага разьмеркаваньня продуктаў, яшчэ далёка ня поўна ахапіла найбольш буйныя фабрыкі і заводы, і што ў рабоце закрытых разьмеркавальнікаў маецца рад буйных недахопаў: нявыразнасьць організацыйных форм, наяўнасьць памылак пры правядзеньні прымацаваньня да закрытых разьмеркавальнікаў асобных груп рабочых, слабая ўкомплектаванасьць закрытых разьмеркавальнікаў найбольш лепшымі працаўнікамі прылаўку, незабясьпечанасьць неабходнымі асортымэнтамі тавараў і няроўнамернасьць разьмеркаваньня тавараў, пленум ЦК абавязвае спажывецкую коопэрацыю, партыйныя, савецкія і профэсіянальныя організацыі паставіць у цэнтры ўвагі сваёй работы безадкладнае палепшаньне пастаноўкі работы закрытых разьмеркавальнікаў і безадкладнае зьнішчэньне наяўных буйных недахопаў у іх рабоце і раду памылак, якія былі дапушчаны пры самой рэорганізацыі закрытых разьмеркавальнікаў.

Асабліва зьвярнуць увагу на недапушчэньне прымацаваньня да закрытых разьмеркавальнікаў спажыўцоў, якія ня маюць адносін да тых прадпрыемстваў, для якіх арганізоўваюцца закрытыя разьмеркавальнікі, дапускаючы прымацаваньне да аднаго закрытага разьмеркавальніка толькі рабочых аднародных прадпрыемстваў.

Адначасова з гэтым палепшыць пастаноўку працы ў агульных коопэрацыйных магазынах.

5. Пленум ЦК лічыць неабходным з мэтай палепшаньня організацыі рабочага забесьпячэньня, у першую чаргу на важнейшых

вучастках соцыялістычнага будаўніцтва, і для правядзеньня больш выразнай клясавай лініі ў разьмеркаваньні з мэтай набліжэньня справы забесьпячэньня да вытворчасьці і ўвязкі забесьпячэньня з выкананьнем вытворчых плянаў на прадпрыемствах, арганізаваць пры найбольш буйных прадпрыемствах гарадоў БССР закрытыя рабочыя кооперативы. Пры арганізацыі закрытых рабочых коопэратываў выходзіць з наступнага:

а) закрытыя рабочыя коопэратывы арганізоўваюцца пры тых прадпрыемствах, дзе колькасьць рабочых складае ня менш 2.000 чал.;

б) закрытыя рабочыя коопэратывы абслугоўваюць толькі рабочых і служачых тых прадпрыемстваў, пры якіх яны арганізоўваюцца, і членаў іх сем'яў, якія разам з імі жывуць, незалежна ад таго, дзе гэтыя члены сям'і працуюць;

в) закрытыя рабочыя коопэратывы павінны зьяўляцца зусім самастойнымі коопэрацыйнымі арганізацыямі са скончанымі фінансава-гаспадарчымі функцыямі з непасрэдным падпарадкаваньнем БКСаюзу, пры чым пры арганізацыі закрытых рабочых коопэратываў дапускаць аб'яднаньне групы аднародных прадпрыемстваў гарадоў БССР у адзін закрыты рабочы коопэратыў.

6. Адзначаючы, што арганізацыя закрытых рабочых коопэратываў прадстаўляе сабою далейшы этап разьвіцьця закрытых разьмеркавацеляў, як найлепшай формы клясавага разьмеркаваньня продуктаў, пленум ЦК абавязвае гаркомы і райкомы КП(б)Б, профсаюзныя арганізацыі і спажыўкоопэрацыю аддаць максымум увагі гэтай важнейшай рабоце, узмацненьню фінансавай і гаспадарчай базы закрытых рабочых коопэратываў, устанаўленьню сапраўднага рабочага масавага контролю над іх работай, усямерна дапамагаючы закрытым рабочым коопэратывам для паляпшэньня забесьпячэньня рабочых, арганізацыі сьвінаадкормачных пунктаў, малочных фэрм і прыгарадных гаспадарак.

Пленум ЦК абавязвае ўсе гаспадарчыя арганізацыі аказаць усямерную дапамогу спажывецкай коопэрацыі ў справе арганізацыі закрытых рабочых кооопэратываў і закрытых разьмеркавацеляў.

Белкоопсаюзу разам з ЦСПСБ у двухдэкадны тэрмін распрацаваць палажэньне аб закрытых рабочых коопэратывах і пералік буйнейшых прадпрыемстваў гарадоў БССР, пры якіх павінны быць арганізаваны закрытыя рабочыя коопэратывы.

7. Адзначаючы рад сур'ёзных недахопаў у справе коопэрацыйнага абслугоўваньня важнейшых гарнізонаў БССР (Бабруйск, Чавусы, Быхаў, Чэрвень і інш.), пленум ЦК абавязвае Белкоопсаюз прыняць безадкладныя і сапраўдныя меры да рашучага зьнішчэньня наяўных недахопаў у гэтай галіне.

8. Надаючы асабліва важнае значэньне справе абслугоўваньня рабочых чыгуначнага транспорту і зьнішчэньню буйнейшых недахопаў і перабояў у забесьпячэньні рабочых транспорту і выходзячы з пастаноў аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б), ЦК КП(б) прапануе:

а) арганізаваць на тэрыторыі БССР самастойныя ТСТ у межах кожнага экспляатацыйнага адміністрацыйнага вытворчага раёну;

б) ТСТ абслугоўваюць рабочых чыгуначнікаў, членаў іх сем'яў і ўсіх іншых працоўных прадпрыемстваў і ўстаноў, якія працуюць на чыгуначным транспарце;

в) даручыць бюро ЦК КП(б)Б у пяцідзённы тэрмін выращыць пытаньне аб арганізацыйных формах кіраўніцтва ТСТ у БССР.

Белкоопсаюзу разам з Белбюро ЦК чыгуначнікаў і прадстаўнікамі адміністрацыі адпаведных раёнаў шляху ў дэкадны тэрмін устанавіць дакладныя пункты, дзе павінны быць арганізаваны закрытыя чыгуначныя рабочыя коопэратывы з тым, каб работа па арганізацыі закрытых чыгуначных рабочых коопэратываў, перадача пайнікаў ім

з адпаведных цэрабкоопаў (маемасьці і г. д., раней пераданых з транспортнай коопэрацыі) была скончана не пазьней 10 лютага.

9. З прычыны таго, што яшчэ да гэтага часу маюць месца ў магазынах крадзеж тавараў, злоўжываньні наборнымі кніжкамі і растраты, пленум ЦК абавязвае Белкопсаюз і ўсю сыстэму спажывецкай коопэрацыі, а таксама профсаюзы разгарнуць шырокую кампанію па мобілізацыі рабочых мас на барацьбу з гэтымі злоўжываньнямі і прыцягненьні да вельмі суровай адказнасьці работнікаў, якія злоўжываюць давер'ем рабочае клясы.

Лічачы зусім недапушчальнай зацяжку сканчэньня перарэгістрацыі пайнікаў, дзякуючы чаму ўсё яшчэ застаецца на забесьпячэньні вялікая колькасьць „мёртвых душ", абавязаць Белкоопсаюз у 2-дэкадны тэрмін поўнасьцю скончыць перарэгістрацыю і выдачу наборных кніжак.

10. Пленум даручае бюро ЦК праз месяц заслухаць спэцыяльны даклад БКС аб ходзе падрыхтоўкі і правядзеньня працы па рэорганізацыі сыстэмы, аб узмацненьні яе працаўнікамі.

11. Адзначаючы, што апарат спажывецкай коопэрацыі, ня гледзячы на праведзеную чыстку, усё яшчэ застаецца засьмечаным шкоднымі, чужымі, клясава-варожымі і опортуністычнымі элемэнтамі, якія тармозяць пераход коопэрацыі на баявыя бальшавіцкія тэмпы, і зусім слабы ход уцягваньня ў коопэрацыйную работу новых пролетарскіх кадраў, пленум ЦК даручае ЦКК-РСІ працягваць работу па далейшым аздараўленьні складу апарату спажывецкай коопэрацыі, праверцы кіруючага складу сыстэмы зьверху данізу і ачысьціц яе радоў ад опортуністычных, чужых, варожых і шкодных элемэнтаў.

Культпропу ЦК сумесна з фракцыямі БКСаюзу і Наркомасьветы пераглядзець існуючую сетку тэхнікумаў, курсаў і мэтавы напрамак іх вучэбнай праграмы з тым, каб далейшая работа тэхнікумаў была накіравана на падрыхтоўку і перападрыхтоўку неабходнай колькасьці пролетарскіх кадраў для забесьпячэньня важнейшых вучасткаў, работы спажывецкай коопэрацыі.

Разам з гэтым для стварэньня безадкладнага рашучага пералому ў галіне ўзмацненьня кіруючага складу коопэрацыі партыйнымі кадрамі, лічыць неабходным на працягу месяца правесьці мобілізацыю 100 адказных работнікаў, маючых вопыт кіруючай работы, для ўзмацненьня важнейшых вучасткаў работы спажкоопэрацыі. Пленум лічыць недапушчальным зьявішчам наяўнасьці вялікай цякучасьці работнікаў сыстэмы, асабліва ў раёнах, што тлумачыцца недаацэнкай працы спажыўкоопэрацыі *з боку* раду раённых парторганізацый, і прапануе спыніць гэту цякучасьць і наогул не дапускаць шляхам перакідваньня работнікаў на другую работу, аслабленьня работы спажыўкоопэрацыі, а ўсямерна ўзмацняць больш моцнымі кадрамі.

12. Адзначаючы, што ў рабоце спажыўкоопэрацыі ў галіне забесьпячэньня да сучаснага моманту ўсё яшчэ няма выразнасьці ў сыстэме клясавага разьмеркаваньня тавараў, пленум ЦК прапануе Белкоопсаюзу і ўсёй сыстэме спажыўкоопэрацыі правесьці наступныя мерапрыемствы.

Рашучым чынам перабудаваць усю работу па забесьпячэньні, з пункту погляду выразнага клясавага разьмеркаваньня як прамтавараў, так і продуктаў харчаваньня з улікам першачарговага абслугоўваньня асноўных прамысловых кадраў рабочае клясы і соцыялістычнага сэктару сельскае гаспадаркі, поўнай увязкі забесьпячэньня з выкананьнем прамфінпляну, захвочваючы павялічаным забесьпячэньнем ударнікаў, а таксама з выкананьнем вытворчых праграм, плянавых загатовак у соцыялістычным сэктары с. г., колгасах і саўгасах, устанавіць сыстэму разьмеркаваньня прамтавараў і продуктаў

харчаваньня паміж асобнымі раёрамі так, каб былі безадкладна зьнішчаны масавыя выпадкі перанасычанасьці і затаварваньня адных раёнаў за лік другіх, засылкі тавараў, якія не адпавядаюць попыту спажыўца, строга дыфэрэнцуючы гэты завоз стасоўна да запатрабаваньняў асобных раёнаў. Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута ва ўсёй рабоце спажывецкай коопэрацыі на паляпшэньне і больш падвышанае забесьпячэньне колгасьнікаў у параўнаньні з адзінаасобнікамі. Павінны быць прыняты ўсе неабходныя меры для максымальнага ўцягненьня ў сфэру цэнтралізаванага разьмеркаваньня тавараў і продуктаў мясцовай і саматужнай прамысловасьці.

Пленум ЦК абавязвае Наркомгандлю, Белкоопсаюз і сампрамкоопэрацыю ў 2-дэкадны тэрмін распрацаваць сыстэму правільнага вучоту выпускаемай продукцыі мясцовай прамысловасьці сампрамкоопэрацыі і выразныя формы плянавага яе разьмеркаваньня.

Пленум ЦК абавязвае БКСаюз, усю спажкоопэрацыю, профсаюзы максымальна ўзмацніць барацьбу за высокую якасьць продукцыі шляхам распрацоўкі рэальных форм контролю над якасьцю продукцыі, прыцягваючы для гэтай мэты шырокія масы рабочых, зварачаючы асаблівую ўвагу на якасьць тавараў пры іх прыёмцы ад прамысловасьці.

ВСНГБ і саматужна-прамысловай коопэрацыі забясьпечыць сапраўдны ўдзел спажыўкоопэрацыі ў распрацоўцы вытворчых програм прадметаў шырокага спажываньня і актыўны ўдзел ва ўстанаўленьні вытворчага асортымэнту. Спажыўкоопэрацыі зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу на вучот попыту спажыўцоў.

Пленум ЦК лічыць неабходным зьнішчэньне існуючага паралелізму ў рабоце па забесьпячэньні паміж Наркомгандлю і Белкоопсаюзам з тым, каб пакідаючы за Наркомгандлю функцыі плянаваньня і ўстанаўленьня норм, у Белкоопсаюзе павінны быць сконцэнтраваны ўсе опэрацыйныя функцыі па разьмеркаваньні.

13. Пленум ЦК абавязвае БКСаюз і ўсю сыстэму спажывецкай коопэрацыі зьвярнуць асаблівую ўвагу на аздараўленьне і ўзмацненьне фінансавай гаспадаркі сыстэмы, на рашучую барацьбу за ўзмацненьне фінансава-плянавай дысцыпліны і ажыцьцяўленьне жорсткага рэжыму ва ўсёй рабоце сыстэмы спажывецкай коопэрацыі, катэгорычна забараніўшы ўсякае выдаткаваньне і выняцьце сродкаў, не прадугледжаных зацьверджанымі плянамі сыстэмы і ня зьвязаных з работай спажывецкай коопэрацыі. Пленум ускладае асаблівую адказнасьць на ўсю сыстэму спажыўкоопэрацыі і прапануе значна ўзмацніць работу па мобілізацыі сродкаў.

Дабіцца ў хутчэйшы тэрмін рэзкага пералому ў патаненьні і паляпшэньні работы ўсяго коопэрацыйнага апарату, сьмелага скарачэньня штатаў і рашучай барацьбы з растратамі ў спажывецкай коопэрацыі.

Разам з гэтым у зьвязку з неўдакладненьнем пытаньня аб нацэнках прамысловасьці на адпускаемыя тавары спажывецкай коопэрацыі, у сувязі з новай рэформай падаткаў, што прыводзіць па цэлым радзе тавараў работы спажывецкай коопэрацыі да страт, прапанаваць СНК у месячны тэрмін разгледзець гэта пытаньне для ўнясеньня поўнай яснасьці ў гэтыя пытаньні.

14. Пацьвярджаючы пастанову бюро ЦК ад 6 студзеня 1931 г. аб мерапрыемствах па разгортваньні прыгарадных гаспадарак спажывецкай коопэрацыі, пленум ЦК зварачае асаблівую ўвагу ўсіх партыйных, профэсіянальных, савецкіх організацый, Наркомзему і гарсаветаў на неабходнасьць сконцэнтраваньня максымуму ўвагі на гэтым важнейшым мерапрыемстве ў справе паляпшэньня рабочага забесьпячэньня і прапануе штодзённай практычнай дапамогай поўнасьцю

ажыцьцёвіць плян разгортваньня прыгарадных гаспадарак спажывецкай коопэрацыі з тым, каб важнейшыя заданьні, як сканчэньне поўнасьцю адводу годных зямель у 25 тыс. гэкт., асабліва адвод зямель Віцебскаму і Гомельскаму ЦРК, якім да гэтага часу яны яшчэ не адведзены, правядзеньне зямляўпарадчых работ у прыгарадных гаспадарках, распрацоўка плянаў па організацыі тэрыторыі, засеў 5.600 гэкт. пад агародныя культуры, давядзеньне малочнага стада да 12 тыс. галоў, адкорм сьвіней да 60 тыс. галоў, ва ўсёй сыстэме, давядзеньне парніковых гаспадарак да 50 тыс. рам—было поўнасьцю скончана. Абавязаць Дзяржплян забясьпечыць будаўніцтва прыгарадных гаспадарак будаўнічымі матар'ялами.

Пленум ЦК прапануе Белкоопсаюзу і ўсёй сыстэме спажывецкай коопэрацыі разгарнуць сапраўды баявыя тэмпы па загатоўцы насеньня з тым, каб плян загатоўкі насеньня для прыгарадных гаспадарак быў поўнасьцю выканан.

Пленум ЦК абавязвае гаркомы і райкомы безадкладна ўзмацніць спрактыкаванымі працаўнікамі прыгарадныя гаспадаркі ЦРК, асабліва кіраўнікамі гэтых гаспадарак. БКС забясьпечыць організацыю прыгарадных гаспадарак у найбольш буйных раённых цэнтрах.

15. Рост рабочае клясы ў прамысловасьці і ўсё большае ўцягненьне членаў рабочых сем'яў у вытворчасьць, у сувязі з ліквідацыяй беспрацоўя, высоўвае перад спажывецкай коопэрацыяй задачу паступовага пераключэньня харчовога забесьпячэньня, у форме індывідуальнага спажываньня, на грамадзкае харчаваньне. Аднак сучаснае, абсолютна нездавальняючае становішча справы грамадзкага харчаваньня не забясьпечвае сапраўднага і поўнага абслугоўваньня грамадзкім харчаваньнем шырокіх рабочых мас і патрабуе ў самы кароткі тэрмін карэннага пералому ў бок яго паляпшэньня.

Пацьвярджаючы пастанову ЦК КП(б)Б аб мерапрыемствах па паляпшэньні справы грамадзкага харчаваньня, пашырэньні будаўніцтва новых прадпрыемстваў, асабліва пры буйных фабрыках і заводах, пленум ЦК прапануе Белкоопсаюзу і ўсёй сыстэме спажывецкай коопэрацыі перабудаваць усю работу па грамадзкім харчаваньні ў асобную гаспадарча - разьліковую адзінку Белкоопсаюзу. Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на паляпшэньне якасьці работы закрытых сталовак на прадпрыемствах. Для гэтай справы неабходна ў самы кароткі тэрмін забясьпечыць закрытыя сталоўкі неабходным інвэнтаром, памяшканьнямі, цьвёрдымі фондамі для забесьпячэньня, узмацненьня гэтых сталовак лепшымі кіраўнікамі.

Разам з гэтым пленум ЦК лічыць зусім ненармальным раздваеньне кіраўніцтва справай грамадзкага харчаваньня па лініі спажывецкай коопэрацыі і па лініі органаў Нархарчу і лічыць неабходным стварэньне адзінага кіраўнітцва справай грамадзкага харчаваньня з тым, каб справа была поўнасьцю сконцэнтравана пад ведамам спажывецкай коопэрацыі. Партыйным, профсаюзным і гаспадарчым організацыям зьвярнуць больш увагі і дапамогі справе паляпшэньня грамадзкага харчаваньня.

16. Адзначаючы нездавальняючае становішча загатоўчага апарату спажывецкай коопэрацыі, слабы ахоп важнейшых відаў загатовак, асабліва другарадных відаў экспарту пры вялікім значэньні спажывецкай коопэрацыі, як найбольш разгалінаванай сеткі па выкананьні цэлага раду дзяржаўных задач у галіне загатовак, пленум ЦК абавязвае Белкоопсаюз і ўсю сыстэму спажывецкай коопэрацыі перабудаваць загатоўчую работу па сапраўды грамадзка-клясава-вытрыманых мэтодах работы, шырока прыцягваючы да работы на загатоўках батрацка-бядняцкія, серадняцкія масы, колгасны і коопэрацыйны актыў.

Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на організацыю сеткі зборшчыкаў раённых відаў сырцу, асабліва харчовых продуктаў другарадных відаў экспорту, для чаго Белкоопсаюзу распрацаваць конкрэтныя мерапрыемствы па пашырэньні загатоўчых пунктаў на вёсцы, падрыхтоўцы праз адпаведныя курсы неабходнай колькасьці спэцыяльных загатоўшчыкаў з колгасьнікаў, батракоў, беднякоў і коопэрацыйнага актыву.

17. Пленум ЦК лічыць, што асноўнай задачай спажывецкай коопэрацыі ў галіне далейшага разгортваньня масавай культбытавой работы павінна быць большае пашырэньне работы сыстэмы, асабліва на вёсцы, з кнігай, далейшае разгортваньне кіно і радыё, разгортваньне і організацыя бытавых устаноў, актыўны ўдзел ва ўсеагульным навучаньні, ліквідацыя няпісьменнасьці, разгортваньне коопэрацыйнай асьветы і г. д., з пераважным абслугоўваньнем на вёсцы соцыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі.

Ва ўсёй сваёй масавай рабоце, асабліва на вёсцы, спажывецкая коопэрацыя павінна забясьпечыць уцягненьне колгасьнікаў у грамадзка-гаспадарчую работу спажывецкай коопэрацыі, асабліва ў кіруючыя органы сыстэмы.

Пленум ЦК прапануе Белкоопсаюзу і ўсёй сыстэме спажывецкай коопэрацыі дабіцца паляпшэньня якасьці і ўсяе масавай культбытавой работы спажывецкай коопэрацыі, паляпшэньня і абслугоўваньня бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, далейшага іх коопэраваньня і прыцягненьня да актыўнага ўдзелу ў рабоце спажывецкай коопэрацыі. Сур'ёзная ўвага павінна быць зьвернута на ўзмацненьне працы спажывецкай коопэрацыі сярод беднаты і батрацтва.

18. Наяўнасьць у сыстэме спажывецкай коопэрацыі момантаў правага опортунізму на практыцы, шкодніцтва, пакраж, бюрократызму, адсутнасьць сапраўдных бальшавіцкіх тэмпаў у рабоце зьяўляюцца ў значнай меры вынікам зусім слаба разгорнутай самакрытыкі, слабога рабочага контролю, слабога прыцягненьня шырокіх мас працоўных да ўдзелу ў штодзённай працы спажывецкай коопэрацыі, а таксама слабой увагі і кіраўніцтва з боку партыйных, профсаюзных і савецкіх організацый.

Пленум ЦК адзначае невыкананьне значнай часткай мясцовых партыйных організацый пастаноў ЦК УсеКП(б) ад 6 верасьня і ЦК КП(б)Б аб рабочым контролі над спажывецкай коопэрацыяй.

Пленум ЦК патрабуе ад партыйных, комсамольскіх, профэсіянальных і савецкіх організацый перабудовы свае работы па кіраўніцтве і дапамозе спажыўкоопэрацыі з тым, каб у карацейшы тэрмін дабіцца карэннага паляпшэньня ва ўсіх галінах работы спажывецкай коопэрацыі, узмацненьня рабочага контролю над яе працай і ператварэньня апошняга ў сапраўдную зброю шырокіх мас рабочых у коопэрацыйным будаўніцтве.

---

## Аб рабочым забесьпячэньні

*Пастанова пленуму ЦК КП(б)Б па дакладу тав. Балціна*

Заслухаўшы справаздачны даклад Наркомгкндлю БССР аб рабочым забесьпячэньні, пленум ЦК КП(б)Б пастанаўляе:

I. Пасьпяховае вырашэньне збожжавай проблемы ў СССР, на базе шырокага разгортваньня колектывізацыі і будаўніцтва збожжавых саўгасаў, а таксама рост збожжазагатовак па БССР (1928-1929 г. — 23.487 тон, 1929-30 г.—105.695 тон і на 15 студзеня 1931 г.—109.300 тон), рашучыя мерапрыемствы, якія праводзяцца партыяй у галіне вырашэньня мясной проблемы, пашырэньне засеву тэхнічных культур,

побач з хуткім ростам продукцыі соцыялістычнай прамысловасьці, даюць магчымасьць ужо ў 1931 годзе значна палепшыць забесьпячэньне асноўных груп рабочых, занятых на важнейшых вучастках соцыялістычнай прамысловасьці, транспарту і будаўніцтва.

Цьвёрдае і няўхільнае правядзеньне ў жыцьцё намечаных партыяй мерапрыемстваў па пашырэньні харчовай базы краіны стварае новыя рэсурсы для далейшага паляпшэньня рабочага забесьпячэньня і забесьпячэньня харчаваньнем новых груп рабочых, якія шырокім патокам уліваюцца ў асяродзішча будаўнікоў соцыялістычнай індустрыі і транспорту.

Пытаньні пашырэньня харчовай базы і паляпшэньня рабочага забесьпячэньня павінны быць у цэнтры ўвагі ўсяе партыі і рабочае клясы.

II. Пленум ЦК КП(б)Б констатуе, што ў рабоце Наркомгандлю па лініі яго галінных аб'яднаньняў, асабліва па Белсадгародніне, Белмясе, Белрыбе і інш., ёсьць буйнейшыя ўпушчэньні і прарывы. Найбольш істотнымі з іх зьяўлюцца: засьмечанасьць апарату гэтых органаў і апарату самога Наркомгандлю чужымі, варожымі і шкодніцкімі элемэнтамі, наяўнасьць момантаў опортунізму на практыцы, слабасьць і бюрократычная марудласьць апарату, няўменьне своечасова перабудаваць сваю работу ў адпаведнасьці з новымі задачамі; незабясьпечанасьць правядзеньня ў жыцьцё дырэктыў партыі аб першачарговым забесьпячэньні важнейшых груп прамысловых рабочых, нездавальняючае і нявыразнае плянаваньне, адсутнасьць контролю за работай коопэрацыі па рабочым забесьпячэньні, адсутнасьць цьвёрдага кіраваньня загатоўкамі асноўных харчовых продуктаў, спазьненьне з падрыхтоўкай і правядзеньнем раду важнейшых кампаній.

Улічваючы пералічаныя недахопы і прарывы, лічыць работу Наркомгандлю па лініі Белмяса і Белсадгародніны нездавальняючай.

Улічваючы значэньне рабочага снабжэньня ў справе забесьпячэньня выкананьня намечаных плянаў соцыялістычнага будаўніцтва, пленум лічыць неабходным правесьці наступныя мерапрыемствы:

1. Безадкладна ачысьціць Белсадгародніну, Белмяса і іншыя галінныя аб'яднаньні Наркомгандлю, а таксама і апарат самога Наркомгандлю ад чужых, варожых і шкодніцкіх элемэнтаў; рашуча перабудаваць усю работу гэтых організацый у поўнай адпаведнасьці з ускладзенымі на іх адказнымі задачамі і дабіцца карэннага паляпшэньня ўсяе іх работы і ліквідацыі вынікаў дзейнасьці шкоднікаў; павесьці рашучую барацьбу з праявамі опортунізму ў практычнай рабоце, зрываючымі выкананьне асноўных мерапрыемстваў партыі ў галіне рабочага забесьпячэньня і загатовак, у двухдэкадны тэрмін перагледзець і спрасьціць структуру і скараціць штат Белсадгародніны і Белмяса.

Пленум ЦК КП(б)Б даручае бюро ЦК у месячны тэрмін *узмацніць* апарат Наркомгандлю і яго аб'яднаньняў шляхам выдзяленьня неабходнай колькасьці партыйцаў, маючых вопыт у кіруючай і гаспадарчай рабоце.

2. Улічваючы выключнае значэньне загатовак жывёлы ў справе рабочага забесьпячэньня і далейшага разьвіцьця іх, пленум ЦК КП(б)Б пацьвярджае ўстаноўлены Бюро ЦК плян жывёлазагатовак па БССР на 1930-31 г. (кастрычнік-верасень) у разьмеры 74.600 тон жывой вагі (у тым ліку 51.600 тон мясазагатовак) і поўнасьцю ўхваляе пастанову Бюро аб дастасаваньні да жывёлазагатовак выпрабаваных мэтадаў збожжазагатовак.

Адзначаючы зусім нездавальняючае разгортваньне жывёлазагатовак з прычыны позьняга давядзеньня пляну да сяла, слабага нациску на кулацка-заможную верхавіну вёскі, пры дачы цьвёрдых заданьняў і іх выкананьні, дрэннай работы рэгулюючых і загатоўчых організацый, што сьведчыць аб недаацэнцы зна-

чэньня жывёлазагатовак і наяўнасьці опортунізму ў рабоце раду загатоўчых і мясцовых організацый, Пленум ЦК КП(б)Б абавязвае Наркомгандлю, загатоўчыя організацыі і РК КП(б)Б безадкладна дабіцца рашучага пералому ў жывёлазагатоўках, праводзіць рашучую барацьбу з усякімі праявамі опортунізму ў жывёлазагатоўках і поўнасьцю забясьпечыць выкананьне 70 проц. гадавога пляну да 1 красавіка 1931 г.

3. Адзначаючы наяўнасьць раду абураючых недахопаў і прарываў у боенскай справе, у пераапрацоўцы мяса і скарыстаньні жывёлы, зусім нездавальняючае становішча бойняў, бясплянавае перакідваньне жывёлы, выпадкі масавага захворваньня і падзяжу жывёлы ў дарозе і на бойнях, адсутнасьць кармоў, няпоўнае скарыстаньне мясных водкідаў, абавязаць Наркомгандлю ў 2-дэкадны тэрмін распрацаваць конкрэтныя мерапрыемствы па зьнішчэньні пералічаных недахопаў і прарываў.

Абавязаць мясцовыя партыйныя організацыі аказаць сапраўдную дапамогу органам НКГандлю ў справе рашучага паляпшэньня боенскіх прадпрыемстваў і ўстанавіць сталы контроль над работай гэтых прадпрыемстваў і над мясцовымі апаратамі Белмяса.

Адзначаючы зусім слабое разьвіцьцё адкормачных опэрацый, з прычыны чаго да гэтага часу поўнасьцю не скарыстоўваюцца водкіды крухмальнай і броварнай прамысловасьці, якія ёсьць у БССР у вялікай колькасьці, а таксама іншыя водкіды, прапанаваць Наркомгандлю забясьпечыць адкорм прадугледжанай плянам колькасьці жывёлы, дабіўшыся максымальнай эфэктыўнасьці адкорму і распрацаваць мерапрыемствы па далейшым пашырэньні і паляпшэньні адкорму.

4. Ня гледзячы на хуткі рост стада ў аграмаджаным сэктары сельскай гаспадаркі, асабліва па сьвіньнях, аднак, прымаючы пад увагу спрыяючыя ўмовы ў БССР па разьвіцьці жывёлагадоўлі, Пленум ЦК КП(б)Б лічыць гэты рост зусім невыстарчальным і не забясьпечваючым выкананьне пастановы 13-га зьезду КП(б)Б аб разьвіцьці жывёлагадоўлі (па „Сьвінаводу“ на 1/I-31 г. пастаўлена 16260 сьвінаматак, замест вызначаных 20.000 шт. на 1/XII, па спэцыяльных колгасах на 1/XII-30 г. пастаўлена 31.500 сьвінаматак, замест 48.000, якія павінны былі быць пастаўлены на 1/X.

Катэгорычна прапанаваць Наркомснабу і Колгасцэнтру прыняць рашучыя захады да забесьпячэньня выкананьня пастаноў 13-га зьезду КП(б)Б па жывёлагадоўлі ў поўным аб'ёме.

Адзначаючы зрыў сьвінаадкормачных опэрацый спажывецкай коопэрацыі ў асобным квартале (50 проц. пляну), прапанаваць Белкоопсаюзу поўнасьцю забясьпечыць выкананьне гадавога пляну адкормачных опэрацый (60.000 гал.), зьвярнуўшы ўвагу на неабходнасьць пашырэньня комплектаваньня адкормачнага стада за лік організацыі матачных гаспадарак мясной коопэрацыі.

5. Пленум ЦК КП(б)Б адзначае, што вялізарныя рыбныя багацьці БССР скарыстоўваюцца ў вельмі нязначным разьмеры. Плян улову на 1930 г. (30.000 цэнт.) Белрыбай выканан ледзь у разьмеры 80 проц.

Лічачы, што забесьпячэньне рабочага насельніцтва рыбай павінна быць безадкладна і рашуча пашырана, абавязаць Наркомгандлю максымальна скарыстаць усе наяўныя натуральныя вадазборы і прудавыя гаспадаркі для павялічэньня ўлову рыбы і сапраўднага забесьпячэньня выкананьня пляну ўлову на 1931 г. (46.000 цнт.) з тым, каб у першым квартале выканаць ня менш 35-40 проц. гадавога пляну. Пашырыць і рашуча палепшыць будаўніцтва новых прудавых гаспадарак і падвысіць іх эфэктыўнасьць.

6. Адзначыць зрыў контрактацыі малака і малочных продуктаў з прычыны бязьдзейнасьці Белмал-

жывсаюзу. У большасьці раёнаў плян контрактацыі не даведзен да сяла, кулацка-заможным гаспадаркам ня даны цьвёрдыя заданьні, адсутнічае выстарчальная сетка зьліўных пунктаў, асабліва ў глыбінных мясцох, маецца значнае асяданьне малака і малочных продуктаў па мясцох, у прыватнасьці ў колгасах і саўгасах, і разбазарваньне цэнтралізаваных фондаў. Пленум адзначае зусім нязначны выхад таварнага малака ў саўгасах, колгасах і прыгарадных гаспадарках спажывецкай коопэрацыі, а таксама дрэннае становішча малочнага стада гэтых гаспадарак.

Пленум лічыць неабходным паставіць контрактацыю малака і загатоўку малочных продуктаў побач з важнейшымі гаспадарчымі і палітычнымі заданьнямі.

Пленум абавязвае Наркомгандлю, загатоўчыя організацыі і РК КП(б)Б дабіцца рашучага павялічэньня загатовак малака і малочных продуктаў, рашуча пашырыць сетку малочных зьліўных пунктаў у аддаленых ад гарадоў раёнах для значнага пашырэньня перааправоўкі малака, шырока прыцягваючы да гэтай справы спажывецкую коопэрацыю. Даручыць НКЗему, Колгасцэнтру і Белкоопсаюзу прыняць рашучыя меры да павялічэньня таварнага выхаду малака і малочных продуктаў у калгасах, саўгасах і прыгарадных гаспадарках спажывецкай коопэрацыі.

7. Ня гледзячы на значнае павялічэньне завозу ў гарады БССР бульбы і асноўнай гародніны супроць мінулага году, усё-ж маюцца вялікія перабоі ў забесьпячэньні рабочага насельніцтва гэтымі продуктамі, што тлумачыцца спазьненьнем і невыкананьнем загатоўчых плянаў і значна ўзросшымі патрэбамі.

Становішча ўскладняецца нявыразнасьцю разьмеркавальнага апарату коопэрацыі і дрэнным хаваньнем.

Улічваючы значэньне гародніны ў рабочым забесьпячэньні, з мэтай паляпшэньня гэтага забесьпячэньня, Пленум ЦК КП(б)Б прапануе:

а) Наркомгандлю, загатоўчым організацыям і РК КП(б)Б шляхам рашучага ўзмацненьня зімовых і вясеньніх загатовак гародніны і, асабліва бульбы, забясьпечыць бесьперабойнае забесьпячэньне гарадоў БССР гэтымі продуктамі;

б) абавязаць Белкоопсаюз дабіцца такога пашырэньня прыгарадных гаспадарак спажывецкай коопэрацыі, якое дало-б магчымасьць яшчэ ў 1931 г. забясьпечыць большую частку патрэбы гарадоў БССР у гародніне з гэтых гаспадарак.

Даручыць СНК устанавіць асобны нагляд за ходам будаўніцтва прыгарадных гаспадарак, забясьпечыўшы выкананьне рабочай коопэрацыяй пляну ў 5.600 гэкт. пад гародныя культуры;

в) абавязаць Наркомгандлю выканаць пастанову сьнежаньскага Пленуму ЦК УсеКП(б) аб зьнішчэньні розьніцы ў цэнах і аб зьніжэньні накладных выдаткаў загатоўчага і забесьпячальнага апарату па гародніне ня менш як на 20 проц. супроць мінулага году;

г) значна пашырыць перааправоўку садовіны і гародніны і скарыстаньне водкідаў, улічыўшы пры гэтым дэфэкты, выяўленыя ў гэтай рабоце ў мінулым годзе. Наркомгандлю забясьпечыць своечасовую падрыхтоўку да плода-гароднінкай кампаніі надыходзячага *сэзону.*

Абавязаць ВСНГБ і Белсампрамсаюз забясьпечыць поўнасьцю выраб неабходнай тары;

д) Наркомгандлю і Белкоопсаюзу пры складаньні плянаў забесьпячэньня гарадоў БССР і ў мэтах ухіленьня сустрэчных і дальніх перавозак устанавіць такі парадак забесьпячэньня асноўных гарадоў БССР, пры якім іх патрэбы ў гародніне забясьпечваліся-б з бліжэйшых да гэтых гарадоў раёнаў;

е) абавязаць НКГандлю і Белкоопсаюз у месячны тэрмін скончыць прымацаваньне паасобных ЦРК, рабкоопаў буйнейшых фабрычна-заводзкіх прадпрыемстваў і чыгу-

начных коопэратываў да бліжэйшых саўгасаў і колгасаў з мэтай атрыманьня непасрэдна ад іх, без якога-б там ні было пасярэдніцтва прымежных зьвеньняў, малака, гародніны, садовіны і інш. продуктаў у межах плянаў забесьпячэньня кожнай організацыі.

Абавязаць НКГандлю забясьпечыць непасрэдную перадачу рабочай коопэрацыі БССР продуктаў, якія загатаўляюцца сыстэмай спажывецкай коопэрацыі і прызначаны для забесьпячэньня гарадоў БССР, без пасярэдніцтва якіх-небудзь іншых організацый, у межах устаноўленых плянаў забесьпячэньня.

8. Улічваючы падвышаны ўраджай збожжа ў 1930 г., прыняцьце і выкананьне радам раёнаў сустрэчных загатоўчых плянаў і прымаючы пад увагу неабходнасьць далейшага паляпшэньня рабочага забесьпячэньня, Пленум ЦК КП(б)Б ставіць задачай РК і загатоўчых організацый ня толькі выканаць збожжазагатоўчы плян па БССР, але і перавыканаць яго.

9. Прымаючы пад увагу, што ў адносінах раду асноўных продуктаў харчаваньня (бульба, гародніна, мяса) БССР зьяўляецца вытворчым раёнам, удзельнічаючым у забесьпячэньні асноўных цэнтраў і прамысловых раёнаў СССР, Пленум ЦК КП(б)Б лічыць неабходным поўнасьцю забясьпечыць выкананьне заданьняў на вывазе гэтых продуктаў.

Абавязаць НКГандлю і загатоўчыя організацыі ў сваёй практычнай рабоце строга захоўваць першачарговасьць забесьпячэньня прамысловых цэнтраў СССР у межах вызначаных контынгентаў.

Забараніць раённым організацыям якое-б там ні было выдаткаваньне продуктаў харчаваньня, якое загатаўляецца па цэнтралізаваных плянах, без адпаведных нарадаў, і праводзіць рашучую барацьбу з усякімі праявамі месьніцтва, ўсклаўшы адказнасьць за выкананьне раённых плянаў на РК КП(б)Б і загатоўчыя організацыі.

10. Улічваючы вялізарнае значэньне грамадзкага харчаваньня ў справе рабочага забесьпячэньня і неабходнасьць яго далейшага разьвіцьця і паляпшэньня, абавязаць Наркомгандлю пры складаньні плянаў забесьпячэньня выдзяляць спэцыяльныя фонды продуктаў для грамадзкага харчаваньня і ўстанавіць контроль за правільным і экономным іх выдаткаваньнем.

11. Адзначаючы рад істотных недахопаў у справе разьмеркаваньня дэфіцытных тавараў і продуктаў паміж гарадзкім і сельскім сэктарамі, паміж асобнымі гарадамі і групамі працоўных, недастатковую выразнасьць у правядзеньні клясавага прынцыпу ў разьмеркаваньні тавараў і продуктаў, частыя выпадкі завозу неадпавядаючага асортымэнту тавараў, адсутнасьць належнага нагляду за якасьцю продукцыі і г. д., абавязаць Наркомгандлю ў 2-дэкадны тэрмін распрацаваць мерапрыемствы па зьнішчэньні гэтых недахопаў, выходзячы з неабходнасьці выразнага разьмеркаваньня абавязкаў паміж Наркомгандлю, яго органамі і сыстэмай спажывецкай коопэрацыі з устанаўленьнем вельмі суровай адказнасьці кожнай організацыі за даручаную ёй работу.

12. Ажыцьцяўленьне задач карэннага паляпшэньня рабочага забесьпячэньня ня можа быць выканана без організаванага ўдзелу шырокіх рабочых мас.

Адзначаючы, што да гэтага часу дырэктыва партыі аб рабочым шэфстве над рэгулюючымі органамі, а таксама і іншыя формы рабочага контролю выконваюцца вельмі слаба, даручыць ЦСПСБ прыняць рашучыя захады да ўстанаўленьня сапраўднага рабочага контролю за работай Наркомгандлю і падпарадкаваных яму аб'яднаньняў.

13. Пленум ЦК КП(б)Б зацьвярджае пастанову Бюро ЦК ад 17 студзеня 1931 г. аб новым па-

радку дыфэрэнцыяванага рабочага забесьпячэньня, абгрунтаванага на прынцыпе значнага паляпшэньня ў першую чаргу забесьпячэньня рабочых буйнейшых гарадоў і важнейшых прадрыемстваў і транспарту. Для ажыцьцяўленьня новага парадку забесьпячэньня павесьці рашучую барацьбу супроць маючых месца ўраўніцельных тэндэнцый на падставе правядзеньня з боку партыйных, профсаюзных і коопэрацыйных організацый шырокай растлумачальнай работы сярод рабочых мас аб значэньні і мэтазгоднасьці гэтых мэтадаў забесьпячэньня ў сучасных умовах.

Абавязаць гаркомы і райкомы ў кіраўніцтве работай органаў рабочага забесьпячэньня цьвёрда прытрымлівацца ўстаноўленага парадку разьмеркаваньня продуктаў і прамтавараў паміж паасобнымі групамі рабочых і іншых працоўных.

---

## Аб становішчы грамадзкага харчаваньня

*(Пастанова ЦК КП(б)Б па дакладу Белкоопсаюзу)*

Заслухаўшы даклад БКС аб становішчы і далейшых мерапрыемствах па пашырэньні і паляпшэньні якасьці грамадзкага харчаваньня па БССР, сэкратарыят ЦК КП(б)Б адзначае, што побач з колькасным пашырэньнем сеткі грамадзкага харчаваньня і колькасьцю выпускаемай продукцыі (на 1-X—1929 г. было 64 сталоўкі з дзённым водпускам 27.825 абедаў; на 1-XII-30 г.— 204 сталоўкі з дзённым водпускам 190.000 абедаў), становішча грамадзкага харчаваньня застаецца вельмі нездавальняючым як па колькасьці сеткі сталовак, так і асабліва па якасьці.

ЦК адзначае яшчэ зусім невыстарчальны ахоп асноўных груп рабочых грамадзкім харчаваньнем і зусім слабы ахоп членаў сем'яў рабочых, недапушчальна нізкую якасьць продукцыі, невызначэньне спэцыяльных фондаў грамадзкага харчаваньня нават для закрытых сталовак, празьмерна вялікія прыбыткі ў асобных сталоўках, адсутнасьць дыфэрэнцыяцыі цэн, зусім дрэннае абслугоўваньне спажыўцоў, вялікія чаргі, наяўнасьць грубых адносін да спажыўца з боку працаўнікоў сталовак, антысанітарнае становішча ў сталоўках, выпадкі шкодніцтва, а таксама няўважлівыя адносіны з боку гаспадарчых організацый да справы палепшаньня грамадзкага харчаваньня на прадпрыемствах і формальныя адносіны з боку асобных аб'яданьняў НКГ да справы выкананьня плянаў па забесьпячэньні сталовак.

Для палепшаньня абслугоўваньня рабочых мас грамадзкім харчаваньнем і зьнішчэньня буйнейшых недахопаў, якія ёсьць у гэтай справе, ЦК КП(б)Б прапануе правесьці наступныя мерапрыемствы:

1. У мэтах першачарговага палепшаньня грамадзкага харчаваньня ў пролетарскіх цэнтрах і чыгуначных вузлох, Белкоопсаюзу на працягу першага кварталу забясьпечыць ахоп гарачай стравай рабочых усіх галоўнейшых галін прамысловасьці. Сьпіс гэтых прадпрыемстваў у дэкадны тэрмін узгадніць з ЦСПСБ, ВСНГ і НКГ.

2. Абавязаць гаспадарчыя організацыі і гарсаветы максымальна дапамагчы коопорганізацыям у правядзеньні мерапрыемстваў па палепшаньні абсталяваньня заводзкіх сталовак і забясьпечыць іх неабходнымі падсобнымі памяшканьнямі (кладовыя, лядоўні, сутарэньні і інш.), асаблівую ўвагу зьвярнуць на поўнае забесьпячэньне начных зьмен гарачай стравай.

3. Абавязаць БКС разам з саюзам харчавікоў больш рашуча павесьці барацьбу за палепшаньне якасьці продукцыі сталовак, за зьнішчэньне безгаспадарчасьці і расхлябанасьці працдысцыпліны, рашучую барацьбу

бу з разбазарваньнем і раскрадваньнем продуктаў і самазабесьпячэньнем, за палепшаньне санітарнага становішча ў сталоўках, для чаго максымальна разгарнуць масавую работу сярод працаўнікоў ставовак, узмацніць культвыхаваўчую працу, больш рашуча вылучаць лепшых працаўнікоў грамадзкага харчаваньня на кіруючую працу ў гэтых прадпрыемствах, асабліва зьвярнуць увагу па недапушчэньне забесьпячэньня сталовак нядобраякаснымі продуктамі.

4. Адзначаючы яшчэ зусім кепскую наладжанасьць абслугоўваньня рабочых-чыгуначнікаў грамадзкім харчаваньнем і слабы тэмп пераводу сталовак на кругласутачную працу, асабліва па абслугоўваньні паравозна-кондуктарскіх брыгад, зусім нездавальняючыя адносіны з боку адміністрацыі чыгуначных вузлоў да прадастаўленьня і прыстасаваньня неабходных памяшканьняў для грамадзкага харчаваньня, прапанаваць БКС, ЦСПСБ і Бел. Бюро ЦК чыгуначнікаў на працягу месячнага тэрміну дабіцца сапраўднага палепшаньня і наладжаньня грамадзкага харчаваньня сярод рабочых-чыгуначнікаў.

5. У сувязі з тым, што да гэтага часу грамадзкае харчаваньне забясьпечваецца ў няплянавым парадку, абавязаць НКГандлю і Белкоопсаюз устанавіць такі парадак забесьпячэньня, пры якім з агульных фондаў забесьпячэньня складаліся-б спэцыяльныя фонды для грамадзкага харчаваньня, пры чым дэфіцытнымі продуктамі закрытыя сталоўкі забясьпечваюцца ў першую чаргу, адначасова зьнішчыць фармальны падыход аб'яднаньняў НК Гандлю да справы грамадзкага харчаваньня, які выражаецца ў невыкананьні пляну снабжэньня з боку аб'яднаньняў НКГандлю.

Даручыць БКС, Наркомснабу і фр. ЦСПСБ на працягу 3 дзён устанавіць колькасьць абедаў на 1-шы квартал 1931 году.

Абавязаць БКС зьнішчыць недапушчальныя зьявішчы высокай прыбытковасьці ў асобных сталоўках. У рабочых-жа сталоўках спыніць атрыманьне якіх-бы та ні было прыбыткаў. Зьніжэньне цэн ні ў якім разе не павінна ісьці за кошт пагоршаньня якасьці абедаў.

6. У зьвязку з усё-ж вельмі слабым ахопам грамадзкім харчаваньнем сем'яў рабочых, асабліва дзяцей, вучняў школ, студэнтаў і зусім недастатковым разгортваньнем самадзейных сталовак абавязаць фр. праўленьня БКС, Гарсавету, Белжылсаюзу разам з ЦСПСБ, дабіцца карэннага пералому ў гэтым напрамку, шляхам пашырэньня сталовак для дзяцей, гарачых сьнеданьняў у школах і пашырэньня сеткі сталовак для студэнцтва і г. д.

7. Лічыць абсолютна недапушчальным амаль што поўны зрыў новага будаўніцтва сталовак, асабліва па Менску і Віцебску па віне ВСНГ і БКС, дзякуючы чаму сетка новых прадпрыемстваў грамадзкага харчаваньня амаль што не пашырылася пры значным павялічэньні нагрузкі па існуючай сеці сталовак. Абавязаць ВСНГ, БКС і адпаведныя гарсаветы поўнасьцю забясьпечыць выкананьне пачатага, паводле пляну, будаўніцтва сталовак з тым, каб будаўніцтва сталовак пры заводзе „Комунар", фабрыцы „Кастрычнік" у Менску, Мэдпрому і фабрыкі „Дзьвіна" у Віцебску было скончана да 1-VI-31 г. і сталоўкі на Ляхаўцы і іншыя да 1-Х-31 г. Абавязаць Белдзяржбуд скончыць будаўніцтва фабрыкі-кухні ў Менску не пазьней 1-VI-31 г. з тым, каб апошняя была пушчана ў эксплёатацыю не пазьней 1-Х-31 г. Абавязаць Дзяржплян прыняць усе захады да забесьпячэньня будаўнічымі матар'ямі пляну будаўніцтва грамадзкага харчаваньня, прыраўнішы водпуск будаўнічых матар'ялаў для гэтай мэты да першачарговага будаўніцтва.

8. Абавязаць БКС зараз-жа прыняць усе захады да своечасовага атрыманьня ўсяго неабходнага абсталяваньня для нанова пабудаваных і організаваных сталовак.

9. Абавязаць БКС, Белсельтрэст, Сьвінавод, Насентрэст і інш. саўгаскія аб'яднаньні не пазьней 1-II-31 г. распрацаваць плян абслугоўваньня рабочых саўгасаў грамадзкім харчаваньнем, асабліва ў больш буйных саўгасах, адначасова з гэтым разгарнуць неабходную растлумачальную працу сярод рабочых саўгасаў аб перадачы выдаваных рабочым на рукі продуктаў у сталоўку для патрэб грамадзкага харчаваньня.

10. У зьвязку з тым, што масавы рабочы контроль вакол працы грамадзкага харчаваньня амаль што не разгорнуты, што ў барацьбу па зьнішчэньні наглядаючыхся буйнейшых недахопаў у гэтай працы ня ўцягнуты рабочыя масы, абавязаць ЦСПСБ, ЦП Саюзу харчавікоў, Райкомы КП(б)Б, ЦП Саюзаў, фракцыі гарсаветаў і коопэрацыйных організацый безадкладна прыступіць да сапраўднага разгортваньня масавага рабочага контролю над усёй працай грамадзкага харчаваньня.

11. Адзначаючы зусім невыстарчальную колькасьць падрыхтаваных кадраў для забесьпячэньня ўзрастаючай сеці грамадзкага харчаваньня, абавязаць БКС разам з НКАсьветы распрацаваць пытаньне аб мэтазгоднасьці адчыненьня спэцыяльнага тэхнікуму для падрыхтоўкі працаўнікоў грамадзкага харчаваньня, разам з гэтым фракцыі праўленьня БКС, выходзячы з агульнага пляну падрыхтоўкі кадраў па спажыўкоопэрацыі, значна ўзмацніць мерапрыемствы па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы працаўнікоў, працуючых у прадпрыемствах грамадзкага харчаваньня.

12. Лічыць немэтазгодным прымацаваньне да закрытых рабочых сталовак асобных прадпрыемстваў рабочых іншых прадпрыемстваў, дапускаючы прымацаваньне будаўнічых рабочых, працуючых на гэтым-жа прадпрыемстве.

13. Даручыць НК ЦКК-РСІ ўстанавіць сыстэматычны контроль над выкананьнем гэтай пастановы. Праз 3 месяцы на сэкратарыяце ЦК КП(б)Б заслухаць даклад БКС і садаклад ЦКК аб грамадзкім харчаваньні.

14. Гэтую пастанову апублікаваць у друку.

# Наша хроніка

## Ільнозагатоўкі

Чацьвёрка ЦК КП(б)Б і СНК БССР заслухалі інформацыю нам. Наркомгандлю тав. Абрамсона аб ходзе ільназагатовак. Чацьвёрка пастанавіла камандыраваць у ільназагатоўчыя раёны ня менш 20 адказных работнікаў цэнтральных устаноў для дапомогі раённым арганізацыям. Райкомам і райвыканкомам прапанавана на працягу 3 дзён дабіцца выкананьня цьвёрдых заданьняў. Прокурору рэспублікі даручана прыцягнуць да адказнасьці тыя райвыканкомы ў раёне, якіх цьвёрдыя заданьні ня будуць выкананы да 5 лютага.

---

Белкоопсаюз праводзіць падрыхтоўку кадраў для пасеўкампаніі. Арганізуюцца кароткатэрміновыя курсы рабочых агароднікаў, пекароў, жывёлаводаў, кіно-мэханікаў, трактарыстаў.

З 5 лютага распачнецца арганізацыя па раёнах курсаў рахункаводаў, якія разьлічаны агулам на 500 чалавек.

Гэтыя рахункаводы будуць накіраваны ў нанова арганізаваныя спажывецкія таварыствы на вёсцы.

---

Сэктар грамадзкага харчаваньня БКС, у сувязі з падрыхтоўкай да 2-й бальшавіцкай вясны, вядзе працу па ахопу грамадзкага харчаваньня саўгасаў і колгасаў. Вызначана арганізаваць 93 стацыянарныя сталоўкі, 33 кухні-ачагі, 34 развозныя.

Са студзеня м-ца вядзецца забесьпячэньне сталовак інвэнтаром.

Вызначана паездка 3 інструктароў для праверкі становішча грамадзкага харчаваньня ў лесарубаў.

---

БКС абвясьціў конкурс і вылучыў фонд у 10.000 руб. для прэм'яваньня лепшых раённых спажывецкіх таварыстваў па падрыхтоўцы да 2-й бальшавіцкай вясны.

# Бібліографія

**Е. Кісялёў. „Організацыя працы дзяцей і падлеткаў у колгасе.“ БДзВ. Менск 1931 г. Стар. 40. *Цана* 10 кап.**

Для ўзьняцьця прадукцыйнасьці соцыялістычнай гаспадаркі наогул і сельскай гаспадаркі, у прыватнасьці, неабходна правільная організацыя працы ва ўсіх галінах вытворчасьці, неабходна кваліфікаваная рабочая сіла.

Аб'яднаўшыся ў вялізныя колектыўныя гаспадаркі, сяляне яшчэ ў большасьці сваёй падыходзяць да тае ці іншае працы з сваёй прымітыўнай звычкай, ня так хутка ўцягваюцца ў грамадзкі процэс вытворчасьці. Прычына гэтага павольнага ўцягненьня тлумачыцца тым, што сялянская праца зьяўляецца цяжкой, прымітыўнай, а таксама тым, што селянін мае вельмі малое ўяўленьне аб тэй вялікай карысьці, вялікай продукцыйнасьці, якую дае колектыўная організацыя працы.

Рэцэнзуемая кніжачка Е. Кісялёва, бязумоўна, зьяўляецца вельмі цікавай і карыснай з таго боку, што яна менавіта упэўніць селяніна ў тым, што яго ранейшая індывідуальная праца зьяўляецца непродукцыйнай, і што толькі колектыўны спосаб вытворчасьці, колектыўная організацыя працы дае максымальную продукцыйнасьць.

Праўда, кніжачка Е. Кісялёва не ахапляе працы ўсіх працуючых у колгасе. Яна бярэ гэта пытаньне значна вузей. Менавіта яна бярэ толькі організацыю працы дзяцей і падлеткаў.

Організацыю працы дзяцей і падлеткаў аўтар зьвязвае са школай. Гэтае пытаньне ў кніжачцы ставіцца праўда вузкавата, але-ж ставіцца зусім правільна. З аднаго боку, дзеці і падлеткі вучацца ў школе, а, з другога боку, працуюць непасрэдна ў колгасе. Тут менавіта аўтар хоча спалучыць разумовую працу з фізычнай. Інакш кажучы, кніжачка наштурхоўвае на шлях політэхнізацыі школы. Вучань набывае ня толькі тыя ці іншыя кніжныя веды, але і веды вытворчага характару. І гэта ўсё адбываецца організаваным парадкам. Аўтар дае зусім яснае тлумачэньне, якім чынам дзяцей і падлеткаў зацікавіць тэй ці іншай вытворчай працай, як пазнаёміць іх з пабудовай і працай сельскагаспадарчых машын.

Аўтар дае тлумачэньне, што знаёміцца з усім процэсам вытворчасьці, а таксама прымаць непасрэдны ўдзел у ім лепш усяго групамі-брыгадамі.

Таксама ў кніжцы тлумачыцца, як скарыстоўваць і разьмяркоўваць працоўны дзень, каб ён даў найбольш карысьці як для самых вучняў, так і для гаспадаркі.

Кажучы аб кніжцы наогул, трэба сказаць, што яна высьвятляе пытаньне аб працы дзяцей і падлеткаў у колгасе досыць шырока і пры тым вельмі конкрэтна. Кніжачка перасыпана адпаведнымі малюнкамі і напісана популярнай мовай, што дае магчымасьць шырокаму яе доступу.

Бязумоўна, яна будзе карысьней для колгаснай моладзі. Зоркін

---

**І. Страшун. „Гарэлка—атрута беднаты“ (пераклад з расейскага.) БДзВ. Менск. 1930 г. Стар. 52. *Цана* 15 кап.**

Гарэлка вельмі шкодзіць кожнаму чалавеку. Асабліва яна зьяўляецца вялікім бічом для беднаты і рабочых. У выніку п'янства здараюцца розныя пакасныя рэчы з чалавекам. Гарэлка наштурхоўвае на розныя ўчынкі, яна распаўсюджвае хваробу і наогул скарачае жыцьцё чалавека.

Змаганьне з п'янствам ёсьць пытаньне сёньняшняга дня, пэрыоду культурнай рэволюцыі.

Асабліва шкодным зьявішчам зьяўляецца самагонка. Яна проста разбурае селяніна, а таксама прыносіць надзвычайна вялікую шкоду дзяржаве. Былі часы, калі сотні тысяч пудоў збожжа сяляне пераганялі на самагонку. Пераганялі апошнія пуды свайго хлеба. І ўсё гэта рабілася таму, што селянін ня ведаў тае соцыяльнай і фізіолёгічнай шкоды, якую прыносіць самагонка.

Адным з сродкаў барацьбы супроць алькоголю зьяўляецца культурна-асьветная пропаганда.

Кніжачка І. Страшуна ў сэнсе азнаямленьня шырокіх працоўных мас з тэй шкодай, якае бывае ў выніку ўжываньня самагонкі і алькоголю наогул, заслугоўвае асаблівай увагі. Кніжачка пабудавана на навуковай падставе. Уся гутарка, якая ў ёй вядзецца, выходзіць зусім з конкрэтных, пераканаўчых падстаў.

У кніжачцы даюцца тлумачэньні ня толькі агульнага характару, але ў ёй разьвязваюцца і такія пытаньні: які ўплыў алькоголь-самагонка робіць на будучае пакаленьне, на дзяцей, як самагонка разбурае народнае дабро, як гарэлка скарачае чалавечае жыцьцё. Конкрэтна паказваецца, што гарэлка балюча адбіваецца на пячонцы, на сэрцы, на мазгох, разбурае іх дзейнасьць.

У кніжцы адзначаецца, што прымушае, што выклікае, ва ўмовах савецкай дзяржавы, гандляваць гарэлкай.

Кніжачка скадзена самай популярнай мовай. Яна можа быць даступнай кожнаму малапісьменнаму селяніну, кожнаму рабочаму. Яе бязумоўна трэба прасунуць у самыя глухія куткі вёскі, а таксама і ў рабочае асяродзьдзе. У гэтых адносінах спажывецкая коопэрацыя, праз свае нізавыя крамы, павінна распаўсюдзіць у масы гэту кніжачку.

Па цане яна таксама зьяўляецца даступнай кожнаму. Чыжык

---



*Рэдакцыйная калегія—Рэдактар* Гінзбург
*Выдавец*—Белкаапсаюз і Белсампрамсаюз

